ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

21 лютага 1997 г. № 8/3884 Кошт 3 000 руб.







# Слугуючы тэатру

Валерыю Мазынскаму — пяцьдзесят. Палова стагоддзя. І амаль чвэртка тысячагоддзя выказванням, ці не самым злабадзённым для яго: "Выбар п'ес — не глупства, але выбар мае на ўвазе дастаткова матэрыялу, і калі не заўжды можна ставіць на сцэне ўзорныя творы, дык мы добра разумеем, хто вінаваты. А пакуль добра ўжо тое, што і звычайнае, і шараговае ацэньваецца як мае быць". Спадар Мазынскі, узначаліўшы тэатр-лабараторыю нацыянальнай драматургіі "Вольная сцэна", ці не гэта ж самае меў на ўвазе. Ад пачатку. Ад рашэння ўзяцца за далікатную справу ўзначальвання гэтай сцэны

*(Працяг на стар. 2)*

З НАГОДЫ

# Слова ад Марцінаса

Сёлета супадаюць два юбілеі — 480 год беларускага кнігадруку і 450 кнігадруку літоўскага. Першая друкаваная кніга на літоўскай мове пабачыла свет у 1547 годзе ў Кёнігсбергу (па-беларуску Каралявец) праз руплівасць пратэстанцкага святара Марцінаса Мажвідаса і з ласкі прускага герцага Альбрэхта. З якой трасцы нашчадак крыжакоў, якія ў свой час дашчэнту вынішчылі туземцаў-прусаў — народа, блізкага да літоўцаў па крыві і мове (толькі і засталася назва тэрыторыі — Прусія), вырашыў прычыніцца да справы асветніцтва літоўцаў, ніхто дакладна не ведае. Але факт застаецца фактам: літоўскае слова стала кніжным, друкаваным дзякуючы немцу Альбрэхту Брандэнбургскаму, уладару Прускага герцагства.

450-годдзе выхаду ў свет "Катэхізіса" шырока адзначаецца ў Літве. Кіраўніцтва краіны скарыстоўвае юбілей, каб яшчэ раз нагадаць пра ўнёсак Літвы ў еўрапейскую і сусветную культуру, узняць імідж Літвы ў свеце. Святочныя мерапрыемствы з гэтай нагоды адбыліся ў Германіі, на чарзе — Польшча, далей — Злучаныя Штаты і Канада, дзе ёсць абшчыны літоўцаў. 11 лютага ў Мінску, у памяшканні Маладзёжнага тэатра, сабраліся прадстаўнікі літоўскай абшчыны Беларусі, працаўнікі беларускай культуры, госці з Літоўскай Рэспублікі. На пачатку была афіцыйная частка з прамовамі, потым невялікі канцэрт. Запрошана была прэса.

Прысутных віталі прадстаўнікі ўрада Літоўскай Рэспублікі, загадчык аддзела Нацыянальнай бібліятэкі імя Марцінаса Мажвідаса, настаўнік з Друскенікаў, навуковец. Гаворка ішла пра ролю Мажвідаса ў гісторыі Вялікага княства і ўласна літоўскай гісторыі, пра еўрапейскі кантэкст ягонай дзейнасці. Найбольш яскрава літоўскі погляд на агульную спадчыну беларусаў і літоўцаў (летувісаў) — Вялікае княства Літоўскае — выявіўся ў прамове прафесара Б. Гензяліса, намесніка старшыні камісіі па святкаванні 450-годдзя "Катэхізіса" Мажвідаса. Сп. Гензяліс адзначыў парадаксальнасць сітуацыі, калі ў суверэннай краіне Вялікім княствам Літоўскім літоўская мова гібела, а ў суседняй даўно анямечанай Прусіі рабіліся захады па яе рэанімацыі. Навуковец выказаў, як мне падаецца, вельмі спрэчную думку, што Прусія не была выключна нямецкай дзяржавай, бо дзяржаўныя чыноўнікі карысталіся ў справаводстве не толькі нямецкай, але часам польскай і нават літоўскай мовамі. (Цікава было б пачуць думку нямецкіх навукоўцаў на гэты конт). У акупаваным Мінску ўлёткі з загадамі нямецкай улады друкаваліся на чатырох мовах: нямецкай, расійскай, беларускай і польскай, але з гэтага не вынікае, што немцы ў горадзе з кімсьці дзялілі ўладу. Хутчэй за ўсё тое ж было і ў Прусіі ў часы Мажвідаса.

Калі атаясамліваць сённяшніх літоўцаў з ліцвінамі сярэднявечча, дык сапраўлы здаецца дзіўным, чаму ў Вялікім княстве Літоўскім гібела літоўская мова і так выразна дамінаваў у дзяржаве славянскі элемент. Але атаясамліваць сённяшніх літоўцаў з тымі ліцвінамі — тое ж самае, што не бачыць розніцы паміж сучаснымі італійцамі і старажытнымі рымлянамі. Тэрмін "літва" — шматзначны, гэта не столькі этнонім, колькі палітонім. Не столькі вызначэнне этнасу, як знак поліэтнічнай дзяржавы (у якой, дарэчы, продкі ўласных літоўцаў-летувісаў ігралі далёка не першую ролю). Скажу больш. Калі б ВКЛ і надалей ішла шляхам Міндоўга і Вітаўта, маючы ў перспектыве стаць імперыяй, балты, як самы слабы этнас дзяржавы, сталі б першай ахвярай імперскай уніфікацыі. Калі б краіна не страціла суверэнітэт, яна б з часам "пераварыла", канчаткова аславяніла б продкаў летувісаў. Летувісы паўтарылі б лёс прусаў, народа, ад якога засталася толькі назва на карце — "Прусія". Назва, якая амаль што сінонім разумення "Германія". Стала б і "Літва" сінонімам "Русі". Але, на шчасце летувісаў, дзяржава страціла незалежнасць і паступова перастала існаваць.

Сёння літоўская нацыянальная ідэя грунтуецца не на гістарычных фактах, яна мае падмуркам міф. Але міф гэты паслядоўна і мэтанакіравана ўводзіцца ў грамадскую свядомасць і набывае рысы рэлігійнага культу. А рэлігійныя пастулаты, як вядома, не абмяркоўваюцца. Іх проста прымаюць на веру, нават пры відавочнай абсурднасці. Зрэшты, дзякуючы міфу, Літва (Летува) выстаяла ў супрацьстаянні Савецкай імперыі, і сёння беларусы могуць толькі пазайздросціць свайму суседу — Літоўскай Рэспубліцы, бо ў Літве прагрэсіўныя змены ўжо маюць неабарачальны характар. Сёння нам трэба вучыцца ў летувісаў, як шанаваць сваё, як памнажаць сваё, як дбаць пра свой прэстыж у свеце.

З беларускага боку на імпрэзе ў Маладзёжным тэатры выступілі вядомы даследчык культуры Адам Мальдзіс і пісьменніца Вольга Іпатава. Сп. Мальдзіс мяркуе, што пры пэўных абставінах Францішак Скарына мог бы стаць першадрукаром не толькі беларускім, але і летувіскім. Бо, магчыма, менавіта гэта прапанаваў яму прускі герцаг падчас знаходжання Скарыны па ягоным запрашэнні ў Кёнігсбергу. Скарына, як вядома, ад герцага збег на радзіму, прыхапіўшы з са-бою прыдворнага лекара. Чамусьці гэтая перспектыва яму не спадабалася.

На сёння абшчына літоўцаў Беларусі налічвае паўтары тысячы афіцыйна зарэгістраваных сяброў. Большасцю культурніцкіх акцый абшчыны ладзяцца не ў сталіцы, а ў раёнах, памежных з Літвою. Святкаванне 450-й гадавіны літоўскага "Катэхізісу" ў Мінску было скарыстана дэлегацыяй Літоўскай Рэспублікі для перамоў з урадам Беларусі па пытаннях нацыянальных меншасцяў у дзвюх краінах. Магчыма, пасля гэтага літоўская абшчына Беларусі атрымае дапамогу ў справе арганізацыі літоўскіх нядзельных школ, дзе выкладаць будуць настаўнікі з Літвы. І тут можна павучыцца ў нашых суседзяў. Хай бы так наш урад рупіўся аб суайчынніках за мяжою.

На заканчэнні імпрэзы ў Маладзёжным тэатры выступіў хор "Айдыя" пад кіраўніцтвам Рамуальдаса Гражыніса. У выкананні хору прагучалі малітоўныя тэксты на словы Мажвідаса, народныя песні, апрацаваныя літоўскімі кампазітарамі-класікамі, і сучасны твор, які сёння ў свеце лічыцца свайго роду музычнай візітоўкай Літвы. Рэч выразна авангардная, але на этнагарафічнай аснове. У першай частцы твора гучыць нараспеў некалькі сказаў на неіснуючай сёння мове старажытных яцвягаў, а інструментамі служаць камяні, якімі адбіваецца рытм. Другая частка — народная песня, запісаная аўтарам у этнаграфічнай экспедыцыі.

Гасцей з Літвы змяніў на сцэне хор Беларускай Акадэміі музыкі.

Адзін з літоўскіх гасцей сказаў на імпрэзе, што без 6 студзеня (мяркуецца, што менавіта ў гэты дзень быў надрукаваны "Катэхізіс" Мажвідаса) не было б і 13 студзеня — дня, калі Літоўская Рэспубліка адстаяла сваю Незалежнасць ад СССР. Гэта ўсім вядомыя падзеі: танкі на віленскіх вуліцах, абарона парламента і, нарэшце, — перамога!

Зноў спраўдзілася ісціна, што "на пачатку было Слова". Слова Мажвідаса, пачутае летувісамі. Слова Скарыны да ліцвінаў, здаецца, яшчэ не дайшло...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

ЭКСЛІБРЫС

# "Еўропа з 1815 года да нашых дзён"

*Жан-Батыст Дзюрэсаль. Беларускі фонд Сораса. 1996.*

**Як бы там ні хвалілі "великий и могучий", але ўсё ж такі прыемна трымаць гісторыю Еўропы апошніх двух стагоддзяў французскага прафесара Сарбоны, выдадзеную па-беларуску. І што б там ні казалі пра роўныя правы ў нас рускай і беларускай моў, але да тых часоў, пакуль у нас не з'явяцца тысячы і тысячы падобных перакладных выданняў па-беларуску па ўсіх галінах чалавечых ведаў, надрукаваных за дзяржаўныя грошы, я буду сцвярджаць, што гэтыя "роўныя правы" — падман.**

**Цікавы ў гэтым гістарычным даследаванні падыход да падачы матэрыялу. Аўтар імкнецца да максімальнай аб'ектыўнасці, нават першакрыніцы размяшчае наперадзе даследавання, як бы кажучы: не верыце мне — чытайце і вывучайце крыніцы, якіх ён падае аж 1200 пазіцый.**

**XIX стагоддзе ў Еўропе аўтар разглядае як "стагоддзе нацыяналізму", спыняючыся на бясконцых нацыянальна-вызваленчых паўстаннях у Багеміі, Харватыі, Венгрыі, Італіі, Румыніі і г. д. Ён разглядае супярэчнасці прынцыпу легітымнасці манархаў, на якім была пабудавана старая Еўропа, з прынцыпам самавызначэння нацыяў. Ён піша пра тое, як Напалеон III "марыў пра натуральныя (этнаграфічныя. — А. Б.) межы Францыі", і пра тое, як "ап'янеласць нямецкага патрыятызму" аб'яднала 350 нямецкіх дзяржаў у 39, і толькі ў 70-х гадах мінулага стагоддзя — у адну. Дата стварэння яшчэ адной "старой" еўрапейскай дзяржавы, Італіі — 1870 год.**

**У XX стагоддзі, як сцвярджае гісторык, "еўрапейскае грамадства ўтрымлівала ў сабе разбуральны элемент: інтэрнацыяналістычны і рэвалюцыйны сацыялізм", якія і прывялі да двух ягоных крайнасцяў — камунізму і фашызму. Я, між іншым, даведаўся пра тое, што першае, што зрабіў Мусаліні, калі прыйшоў да ўлады, дык гэта змяніў канстытуцыю "пад сябе", а адметнаю рысаю Гітлера ён лічыць "адначасовае спалучэнне цвёрдага характару і абсалютную веру ў сваю дактрыну. Усё сказанае ім ён будзе выконваць, што б там ні здарылася".**

**Аказваецца, мы, беларусы, нягледзячы на ўсе непрыемныя нечаканасці апошніх гадоў, не надта і выпадаем з агульнаеўрапейскіх працэсаў. Так, дэмакратызацыя Еўропы, якая пачалася, можна лічыць, з увядзення ў 1871 годзе ў Францыі ўсеагульнага выбарчага права, па-за краінамі былога сацлагера скончылася толькі ў 1974 годзе, калі былі зменены аўтарытарныя рэжымы ў Партугаліі, Іспаніі і Грэцыі. А незалежнасць Беларусі на фоне "свежай" незалежнасці яшчэ пятнаццаці еўрапейскіх дзяржаў (не лічачы Абхазіі і Чачні), дык і ўвогуле выглядае з'явай своечасовай.**

**Прафесар Дзюрэсаль на падставе аналізу двухвяковай гісторыі Еўропы прыходзіць да высновы, што "свабода ў канчатковым выніку робіць палітычную сістэму больш жыццяздольнай". Застаецца шкадаваць, што такія кніжкі не дайшлі да нашых гістфакаў гадоў 25 таму.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# У нас — кніжны кірмаш...

Учора ў памяшканні Рэспубліканскага выставачнага цэнтра пачаў працаваць IV Міжнародны кніжны кірмаш. Наведвальнікамі яго ў гэты дзень сталі толькі прадстаўнікі фірм, якія прайшлі акрэдытацыю. А цікавасць да мерапрыемства вялікая, таму што Мінскі кірмаш увайшоў у Міжнародны каляндар СНД. А паводле рашэння толькі тром кірмашам нададзены статус міжнародных: маскоўскаму, санкт-пецярбургскаму і нашаму, беларускаму.

Таму і падалі заяўкі на ўдзел у яго рабоце многія знакамітыя выдавецкія фірмы з Вялікабрытаніі, Францыі і іншых краін. І, канечне ж, ахвотна адклікнуліся на запрашэнне нашы блізкія суседзі.

Прынамсі, шырока прадстаўлены расійскія выдавецтвы, сярод якіх такія, чыя прадукцыя апошнім часам на нашым кніжным рынку карыстаецца вялікім поспехам — "Росмен", "Слово".

Годна адчуваюць у сцэнах выставачнага цэнтра і гаспадары, а гэта дзесяць дзяржаўных выдавецтваў, а таксама недзяржаўныя структуры, Мінская фабрыка каляровага друку.

Кірмаш працуе яшчэ сёння і заўтра. У гэтыя дні яго могуць наведаць усе жадаючыя. Дарэчы, пенсіянеры, інваліды і дзеці да дзесяці гадоў могуць гэта зрабіць бясплатна.

АДГАЛОСКІ

# Апокрыф і легенда

Калі я чытаў эсэ-роздум Алеся Разанава "Жыта і васілёк. Слова пра Максіма Багдановіча" ("ЛіМ", 17 студзеня), то бачыў перад сабою не толькі апавяданне "Апокрыф", але і лірычную мініяцюру Алеся Гаруна "Першы снег". Гэтыя два творы асабліва духоўна блізкія. Адзін з іх называецца "апокрыфам", а другі "легендай". У першым з іх найвышэйшым суддзёю выступае сам Хрыстос, а ў другім — Прарок. Але галоўнае тут, у абодвух выпадках — услаўленне красы прыроды, красы жыцця, красы духоўнага свету чалавека, які з гэтай прыродай зросся.

Нагадаю радкі з "Першага снегу": "Глядзіце, вось у мільёнах часцінак спадае ён чысты і белы, без сказы, як душы дзяўчатак, што з вёсак нашых ідуць у гарады іх; лягусенькі і мяккі, вясёлы, як птушка, у мільёнах часцінак іграе, блішчыць і падае, як тысячы моладзі нашай з мяккай вясёлай душой радасна ўступаюць у жыццё; да нас ляціць ён увесь светлы, без думак (...)...

І вот паглядзіце — ужо ходзяць па ім, ужо топчуць нагамі і з граззю мяшаюць, і з брудам нячыстым...

Так топчуць яны і душу дзяўчаці і цісnуць у бруд жыццё моладзі нашай; так чэрняць і жыццё і памяць сваіх — справядлівых!.."

Любую красу, усё найсвяцейшае — у тым ліку і сляды Хрыстовы ("Апокрыф") і бялюткі першы снег — можа патаптаць нага чалавека. І творы абодвух пісьменнікаў аберагаюць прыроджаную красу як нешта свяшчэннае, як небывала каштоўны духоўны скарб.

У Алеся Гаруна мы бачым пакутлівую трывогу за першародную чысціню душы чалавека, тую чысціню, якую бязлітасна знішчае, топча бесчалавечнасць як нейкая злавесная норма існавання нашага грамадства. Тут трывога за лёс самой красы, якой так пагражае паўсядзённа чыясьці бяздумнасць. І той бялюткі снег і вобраз васілька з апавядання Максіма Багдановіча набываюць глыбокі алегарычны сэнс, прымушаюць нас задумацца над складанымі пытаннямі нашага быцця.

"Апокрыф" і "Першы снег" блізкія таксама і па часе нараджэння. Апавяданне Алеся Гаруна пабачыла свет у 1912 г., у 39-м нумары "Нашай Нівы", "Апокрыф" — у "Каляднай пісанцы" ў 1913 годзе. І ў тым жа 1913 годзе ў "Нашай Ніве" з'явіліся заклікі "сплачваць доўг" перад красой роднай зямлі, але таксама і роздумы аб тым, "чаму плача песня наша?" Як быццам нечакана наспела і прарвалася на старонкі друку і ў мастацкія творы праблема аб жыццёвых вытоках і грамадскай ролі самой красы і мастацкага слова — у лёсе народа, у жыцці чалавека, які цяжкай працай здабывае свой хлеб надзённы. А там, быццам нейкім непазбежным водгуллем, прагучыць у Якуба Коласа такое набалелае:

*Ды што краса без аўладання?*
*Адно пустое парыванне,*
*У цьме далёкі блеск зарніцы...*

Краса каштоўная сама па сабе, але яна не існуе ў адрыве ад штодзённага жыцця і змагання чалавека з лёсам.

...Аднойчы Максім Танк паказаў мне зборнік нейкіх вершаў, перакладзеных на польскую мову нобелеўскім лаўрэатам Чэславам Мілашам. Я адразу сказаў, што я не дарос да такой паэзіі. І ўражанні Максіма Танка паказаліся блізкімі. А што я там пабачыў?

Сёння прычыну сваіх адносін да той паэзіі я мог бы вытлумачыць так: з васілька сарвалі сіненькую шапачку, а сцяблінку завязалі вузельчыкам. І гэты вузельчык нейкім трафам нагадваў мне ўсяго толькі фігу — тварэнне найбольш дасканалай істоты на нашай планеце — чалавека і яго рукі, якая можа рабіць, калі кіруецца разумнай галавою, небывалыя цуды. А такія вузельчыкі з аднолькавым запалам і поспехам можна завязваць і на лебядзе, і на саломіне, на якой калісьці рос колас. І нехта пры гэтым будзе шчыра заклікаць: "Любуйцеся васількамі!" І знойдуцца людзі, якія будуць захапляцца, як хтосьці адзеннем голага караля.

Аўтар такога твора ўпэўнены, што ён падарыў чытачу васілёк. А я, грэшны, бачу тут усяго толькі кампазіцыю з сухіх бадылькоў, завязаных вузельчыкамі. І мяне ўжо не цікавіць, што там было раней: сіненькі васілёк ці важкі колас са жменяй зярнят.

Васілёк — для ўсіх васілёк. А вось у сцяблінкавым вузельчыку бачыць кветку і любавацца яе красою могуць толькі людзі, якіх Бог надзяліў спецыяльным талентам. Ёсць і такія.

Так вось і "Апокрыф", і "Першы снег" з той далёкай нашаніўскай пары як быццам адрадзіліся для нас, для нашага часу, сталі ў самым канцы стагоддзя не менш надзённымі і сваімі, чым тады, амаль дзевяць дзесяцігоддзяў таму назад. Яны даюць добрую аказію задумацца, паразважаць аб спрадвечных праблемах жыцця.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

## Каштоўнасці духоўнай культуры



Дзе яны? Ёсць і ў Львове. На самым пачатку стагоддзя львоўскі вучоны І. Свянціцкі для Царкоўнага (пазней — Нацыянальнага) музея па заказе галіцкага мітрапаліта грэка-каталіцкай царквы А. Шаптыцкага набываў на Беларусі кнігадрукі, акты, абразы, рэчы выяўленчага мастацтва, слуцкія паясы... Закупцы калекцый спрыялі І. Луцкевіч, Беларуская Сацыялістычная Грамада — каб захаваць ад знішчэння помнікі духоўнай спадчы

XXIX. Кутеін.



Дапаможа ўявіць памеры і каштоўнасці львоўскіх прыдбанняў Літаратурны музей Янкі Купалы, які 21 лютага а 16 гадзіне запрашае ахвотнікаў на адкрыццё выставы "У сугуччы культур. Беларусь — Украіна. Да 90-годдзя першага беларускага замежнага музея ў Львове".

Єве.



Учителное
албо
Казанья на кождую неделю
И Свята урочистыи
презъ
...
а теперь ново
З Грецкого и Словенского языка на
Руский переложеный.

Ч. 39. 1616. р.

*На здымках: згадка аб старадаўніх беларускіх друкарнях з кнігазбору І. Свянціцкага.*

Тэкст і фота С. ПАНІЗНІКА

ВІНШУЕМ!

# "Я прыйшоў з беларускай ідэяй..."

***Пяцідзесяты дзень нараджэння Міхала Фінберга прыпадае акурат на сёння, 21 лютага. І гэта цудоўная нагода для размовы з маэстра, які дзесяць гадоў таму стварыў і ўзначаліў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі.***

**— Паглядзець, Міхал Якаўлевіч, — у вас напраўду свята: усё гэтак прыгожа сышлося да "залатога" юбілею! Дзесяць гадоў кіруеце выбітным калектывам, разам з якім не проста цешыце-радуеце, а і здзіўляеце слухачоў досыць розных — здзіўляеце шырынёй мастацкіх задум, стабільнасцю іх выканання. Не толькі калегі-музыканты, а і дасведчаныя аматары захапляюцца вашым прафесіяналізмам, творчай прынцыповасцю: адданасць жывому гучанню і ніякіх фанаграм падчас канцэртаў. У вас і вучні ёсць — на кафедры духавых інструментаў Акадэміі музыкі, дзе вы — дацэнт. І ў Італіі вас памятаюць, і ў Польшчы, і ў Расіі шануюць. Вы сумленна заслужылі і званне народнага артыста Беларусі, і Дзяржаўную прэмію. Вы заўсёды ў полі зроку журналістаў. І фільм пра вас нядаўна знялі. Усеагульнае прызнанне — і няма праблем?**

— Можа, так і бывае, ды толькі не ў мяне. Вы ж ведаеце, займаючыся жывой творчай справай, праблем унікнуць — немажліва. Сёння гэта ўжо не тыя праблемы, з якімі давялося змагацца, ствараючы аркестр. Ніякавата нават успамінаць, што за першыя амаль два дзесяткі гадоў творчай працы з музыкантамі сталічнага цырка я не тое што падзякі ад кіраўніцтва не меў — слова добрага не пачуў. Усё змянілася з лета 87-га, калі дзяржава нарэшце падтрымала мой, здавалася, безнадзейны энтузіязм. І гэтую падтрымку і разуменне патрэб калектыву мы адчуваем цяпер пастаянна. Асабліва радасна ўсведамляць, што высокая дзяржаўная ацэнка, пра якую вы нагадалі, — гэта ацэнка маёй працы на **беларускую ідэю**. З беларускай ідэяй я прыйшоў у новы аркестр, дзесяць гадоў на яе працаваў і працаваць буду да скону.

**— Але ж на той час маэстра Фінберг з беларускай ідэяй, з беларускай мовай у справаводстве і ў ліставанні выглядаў дзіваком. Ідэя тады не была кан'юнктурная, як гэта сталася праз некалькі гадоў, калі на хвалі адраджэння, нібыта героі міфаў з пены марской, з'явілася цэлае войска прыхільнікаў беларушчыны. Вось і хваля пачала аціхаць, а вы ўсё з той жа ідэяй...**

— Нічога тут дзіўнага і ўсё вельмі проста. Я заўсёды хацеў, каб у нас быў менавіта **беларускі** эстрадны аркестр.

Мы жылі ў Савецкім Саюзе, але ж нацыянальныя рэспублікі мелі свае нацыянальныя аркестры, якія адрозніваліся непаўторным каларытам. Я іх слухаў і пазнаваў, бо грузінскі аркестр іграў сваю эстрадную музыку, армянскі, узбекскі — сваю, эстрадны аркестр Украінскага радыё вызначаўся сваім аблічам.

Мне хацелася, каб новы аркестр стаўся творчай лабараторыяй для беларускіх кампазітараў, якія пішуць у так званых "лёгкіх" жанрах. У сваю чаргу яны былі зацікаўленыя ў стварэнні такога калектыву, бо — які ж сэнс пісаць тое, што няма каму выконваць?

І вось за 10 гадоў працы Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі ўмацаваў творчы кантакт з Саюзам кампазітараў, удзельнічае ў яго імпрэзах, ладзіць аўтарскія вечарыны.

І другі, не менш важны кірунак дзейнасці аркестра — развіццё супрацоўніцтва з Саюзам пісьменнікаў. Беларуская музыка і слова беларускае — наша аснова. На гэтым і Нацыянальны фестываль песні ды паэзіі "Маладзечна" грунтуецца. Памятаеце, у нас праграма была: "У родным слове — родная мелодыя"? Яе складалі творы на вершы беларускіх паэтаў ад "А" да "Я", ад Аколавай да Янішчыц. Аўтарскія вечарыны выдатных нашых літаратараў ладзілі: Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Някляева... Цяпер вось рыхтуем праграмы на вершы Леаніда Дранько-Майсюка, Рыгора Барадуліна. Як жа інакш? Афіцыйнае двухмоўе абавязвае нас вельмі ўважліва, далікатна ставіцца да беларускай мовы. І шкада, што той рух, які атрымлівала беларуская песня ў сувязі з маладзечанскімі святамі, замыкаўся межамі фестывалю...

**— Вядома, што аркестр назапашвае сілы, каб праз год правесці чарговы фэст у Маладзечне. А што новага, апроч ужо згаданых аўтарскіх вечарын, робіцца і рыхтуецца сёлета?**




— Настолькі ў нас насычанае жыццё, што нават цяжка вызначыць мяжу — дзе тут справы года мінулага, дзе ўжо сёлетнія. Вось правялі мы бенефіс таленавітага беларускага музыканта, кампазітара, нашага калегі Ігара Сацэвіча, аўтарскі канцэрт знакамітага госця з Санкт-Пецярбурга Андрэя Пятрова, сольныя вечарыны Якава Навуменкі, Міколы Скорыкава, праграму "Ігар Лучанок і ягоныя вучні", імпрэзу ў Тэатры оперы і балета, на якой ушаноўваліся лепшыя, паводле вынікаў года, людзі творчых прафесій...

У планах — падрыхтаваць дзве праграмы з таленавітымі беларускімі дзеткамі. Але адбор удзельнікаў мусіць быць рафінаваны, таму мастацкі вынік шмат у чым залежыць ад сумленнасці і адказнасці тых спецыялістаў, што будуць дапамагаць нам у абласцях, у мястэчках. Нас не можа задавальняць самадзейны ўзровень цяперашніх дзіцячых музычных імпрэз. Мы павінны паклапаціцца пра заўтрашні ўзровень беларускай эстрады (якасць падрыхтоўкі кадраў для якой пакідае пакуль жадаць лепшага) і зрабіць высокамастацкія, густоўныя праграмы кшталту "Ранішняй беларускай "зорачкі".

Пры канцы лютага — на пачатку сакавіка праводзім традыцыйны ўжо джазавы фэст у Мінску. На красавік рыхтуем аўтарскі канцэрт цудоўнага кампазітара, сёлетняга юбіляра, Леаніда Захлеўнага. Працягваем запіс для праграмы Грамадскага расійскага ТБ "Адгадай мелодыю". У маі плануем ужо Другі фестываль камернай музыкі ў Нясвіжы. Камерны аркестр з ліку нашых музыкантаў, які працуе пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Валерыя Сарокі, і таксама наш віртуозны Ансамбль духавых інструментаў пад кіраўніцтвам прафесара Барыса Нічкова рыхтуюць некалькі разнапланавых канцэртаў. У адным з іх прагучыць адроджаная беларуская музыка XVIII стагоддзя. У праграму другога, якая фарміруецца пад мастацкім кіраўніцтвам прафесара Дзмітрыя Смольскага, уключаны творы нашых сучаснікаў Галіны Гарэлавай, Генадзя Ермачэнкава, Аляксандра Літвіноўскага, Дзмітрыя Лыбіна, Уладзіміра Кур'яна, Ігара Паліводы, Сяргея Янковіча, Дзмітрыя Смольскага... Ну, і досыць пра канцэртныя праграмы, дадам толькі, што, як і летась, іх дапоўніць навукова-практычная канферэнцыя, якую арганізуе Беларускі інстытут праблем культуры пад кіраўніцтвам прафесара Уладзіміра Скарахадава.

**— А там і лета...**

— Так, мы думаем і пра лета: Віцебск, "Славянскі базар". Там збіраемся адзначыць 10-годдзе аркестра. Чакаем шмат гасцей, лаўрэатаў усіх фестываляў, якія ладзіліся з удзелам нашага калектыву. Гэта і "Маладзечна", і "Зялёна Гура", і фестываль польскай песні ў Віцебску, і "Прыступка да Парнасу"... Запрашаем Аляксандру Пахмутаву, Андрэя Пятрова, Алега Лундстрэма, Раймонда Паулса. Плануем асобную праграму з лепшых беларускіх песень. Увогуле ж, рыхтуючыся да знамянальнай даты, мы ўпершыню зробім гастрольны тур па дзесяці гарадах Беларусі. Балазе, цяперашняя аснашчанасць аркестра гэта дазваляе; у нас свая разборная сцэна, мы забяспечваем сабе і гук, і суперасвятленне. А пачнём у маі, з Мазыра.

**— Таму, што Мазыр — ваша радзіма?**

— Таму, што там — нашы даўнія сябры і шэфы, да якіх мы наведваемся штогод: Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. І яшчэ наш прыезд супадае з традыцыйным святам горада.

**— Міхал Якаўлевіч, вы чамусьці нічога не кажаце пра тое, як будзе адзначаць калектыў юбілей свайго маэстра...**

— Я вырашыў не рабіць з гэтай нагоды ніякіх бенефісаў, справаздачных канцэртаў. Ідзе звычайная штодзённая праца. А сёння, карыстаючыся выпадкам, хачу праз газету "Літаратура і мастацтва" падзякаваць усім, хто падтрымлівае аркестр. Гэта і кіраўніцтва краіны, і Міністэрства культуры. І журналісты. І нашы шматлікія слухачы. Мне прыемна гаварыць і пра тых таленавітых, адданых справе людзей, з якімі я побач працую, на якіх трымаецца наша мастацтва: канцэртмайстар групы труб Валеры Шчарыца, канцэртмайстар групы трамбонаў Андрэй Грушко, саксафанаў — Ігар Мішура, кіраўнік рытм-секцыі Сяргей Анцішын, канцэртмайстар струннай групы Святлана Іванюковіч, музыканты-аранжыроўшчыкі Андрэй Шпянёў, Уладзімір Ткачэнка, Ігар Сацэвіч, нашы вядучыя салісты-спевакі...

**— Тое, што вы робіце разам з музыкантамі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра і называеце "штодзённай працай", доўжыцца ўжо дзесяць год і ўспрымаецца вашымі прыхільнікамі як свята. Няхай жа так будзе заўжды. З днём нараджэння!**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

КРАСА

***Не ведаю, з чаго і пачаць свой аповед пра ўбачанае і пачутае. Хадзіла, глядзела, слухала, захаплялася і здзіўлялася, а думалася, чамусьці, пра тое, чым знаная наша Беларусь у свеце. Раней казалі, што нібыта — сваімі "лепшымі ў свеце" трактарамі, "БЕЛАЗамі" ды халадзільнікамі. Цяпер жа высвятляецца, што гэта не зусім так. Любая краіна ў свеце знаная найперш сваім народам, адметнасць і самабытнасць якога найбольш ярка выяўляецца ў здабытках ягонае калектыўнае душы, у мастацтве, у той так званай красе, што спараджаецца ягоным жыццём, працаю і побытам і, адначасова, аздабляе, прыўкрашае гэтыя самыя жыццё, працу і побыт.***

***І сярод самых розных і шматлікіх формаў і відаў гэтае народнай красы не апошняе месца належыць таму яе пласту, што тварылі і твораць народныя рамёствы. Пласт гэты надзвычай аб'ёмісты і разнастайны. Ён штодня і паўсюль з намі, з кожным з нас дома і на працы, у дарозе і ў часе адпачынку, у маленстве і ў старасці, у радасці і ў горы. Бо гэта рэчы і прадметы, якія нас акаляюць, якімі мы карыстаемся, якія надзяваем, апранаем, носім, засцілаем, з якіх ядзім і п'ём, якімі працуем і г.д. Але, але, гэта самыя розныя шматлікія утылітарныя рэчы, але яны ж — і творы мастацтва, бо зроблены з любоўю, бо пазначаны талентам іх творцаў, бо ў іх выяўлена і замацавана шматвяковае імкненне чалавека да прыгажосці, вопыт пакаленняў, народныя традыцыі.***

# "Скарбніца" — імя жаночае...

На жаль, тэхнічны прагрэс, які развіваецца асабліва бурна ў нашым дваццатым стагоддзі, не знайшоў асаблівай паразумеласці з гэтай галіною (ці сфераю) чалавечай дзейнасці. Інтэнсіфікацыя і уніфікацыя, гэтыя ці не найпершыя адзнакі тэхнічнага прагрэсу, дзейнічаюць на народныя рамёствы проста-такі забойча. Знішчальна. На першым часе мы не заўважаем гэтага. Танныя і густоўныя фабрычныя рэчы запаланілі наш быт, зрабілі яго па сутнасці нанова, і ён падаўся нам ці не лепшым за колішні, традыцыйны. Ды ўсё ж прыходзіць час, калі мы — спахопліваемся і пачынаем смуткаваць, нудзіцца па страчаным. Бо — нечага не стае нашай душы, ёй неяк няўтульна, холадна, непамысна, непрыкаяна. Бо, паквапіўшыся на таннае, хоць і кідкае, нават зіхатлівае, мы бяздумна адмовіліся ад нечага куды больш важнага, дарагога, неацэннага — ад тае самае народнае красы, асвечанай традыцыямі і вопытам пакаленняў, нашых далёкіх і блізкіх продкаў. І добра, што ёсць людзі, якія мэтаю свайго жыцця зрабілі адраджэнне і развіццё страчанага.

З такімі людзьмі я пазнаёмілася ў Цэнтры беларускіх народных рамёстваў "Скарбніца", што месціцца на вуліцы Кісялёва, 40 у Мінску. "Скарбніца" — адзінае ў Беларусі навукова-вытворчае прадпрыемства па стварэнні сучасных вырабаў, заснаваных на традыцыях народных рамёстваў. У былым Саюзе аналагічныя прадпрыемствы былі толькі ў Маскве і Кіеве.

"Скарбніцы" споўнілася нядаўна дваццаць гадоў. І ўсе гэтыя гады асноўнаю мэтаю калектыву было прапаганда народнай творчасці, беларускай нацыянальнай культуры, адраджэнне народных рамёстваў. Працу сваю прадпрыемства пачало з таго, што супрацоўнікі і работнікі некалькі гадоў запар ездзілі па Беларусі і збіралі, так бы мовіць, матэрыял. Гэта былі маладыя, энергічныя, апантаныя любоўю да народнай творчасці выпускнікі нашага тэатральна-мастацкага інстытута — спецыялісты па ткацтве, саломцы, іншых відах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Збіралі ўсё, што прываблівала ўвагу сваёй неардынарнасцю, рэгіянальнай асаблівасцю, што мела адбітак творчай адметнасці, адмысловасці. Узорыстае ткацтва Брэстчыны і народныя касцюмы з Гомельшчыны, славутыя ручнікі з Неглюбкі, каляровыя вышыванкі з Палесся, славутыя віцебскія дываны-маляванкі, шматлікія вырабы з лазы і саломкі, з дрэва і гліны — метадычны фонд "Скарбніцы" сёння проста унікальны, з надзвычай багатай картатэкай па ўсіх рэгіёнах, з замалёўкамі, малюнкамі, слайдатэкай, дапаможнікамі па самых розных відах рамёстваў, разнастайнай спецыяльнай літаратурай, калекцыямі ўзораў усялякіх адмысловых вырабаў. Ёсць тут і унікальнае абсталяванне, якое збіралася і манціравалася цягам гадоў, у тым ліку кросны розных памераў і прызначэнняў, керамічная майстэрня са стацыянарнай печчу.

Распавядае мастацтвазнаўца "Скарбніцы" Наталля БАРЫШАВА:

— Да 1990 года, калі наша прадпрыемства было бюджэтным (зараз мы — на арэндзе), грошай на экспедыцыі выдзялялася значна болей. І, дзякаваць Богу, паспелі зрабіць нямала. Сёння такой магчымасці ездзіць у экспедыцыі мы не маем. І гэта вельмі кепска. Няхай сабе нібыта і абследавана ўсё, а экспедыцыі спыняць аніяк нельга. З'яўляюцца новыя майстры, нараджаюцца новыя традыцыі. Адначасова, на жаль, прападаюць, знікаюць часта унікальныя рэчы, якія павінны былі б папоўніць скарбонку фонду. Надаралася спаткацца ў экспедыцыях з такімі фактамі: памірае бабулька, і хаваюць яе ў вельмі ж адметным, рэдкім нацыянальным касцюме. Праўда, зрабіць у гэтым выпадку можна мала што, супраць волі нябожчыцы не пойдзеш. А як мірыцца з тым, што старадаўнія андаракі альбо адмысловыя, скажам, цёмныя, ручнікі скарыстоўваюцца ў якасці звычайных ануч для мыцця падлогі? Ёсць, ёсць і сёння пільная неабходнасць шукаць і ратаваць тое, што зберагося. Наколькі гэта важна, пацверджу на такім прыкладзе. У свой час мы, дзякаваць Богу, нямала пахадзілі па Гомельшчыне, у тым ліку па раёнах, што пасля пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Сабралі багацейшы матэрыял. А калі б не сабралі? Так бы ўсё і прапала, загінула б. А цяпер мы, гледзячы на тое, што ёсць у нашым фондзе з самых пацярпелых Брагінскага і Хойніцкага раёнаў, нават мяркуем сабраць выставу ды паказаць яе перасяленым адтуль людзям — нельга ж, каб яны забывалі свой побыт, свае традыцыі, сваю культуру...

"Скарбніца" — гэта і навука, і мастацтва, і вытворчасць. І ёй, пэўна, цяжэй сёння, чым іншым бюджэтным установам ці арганізацыям. Для выжывання трэба клапаціцца пра заказы — зарабляць грошы. А заказы тут — не канвеерныя. Кожны выраб не мае, па сутнасці, тыражу. Найбольш складаныя "творы мастацтва" наогул выходзяць "партыямі" ў адну-дзве пары адзінак. Затое гэта сапраўды непаўторныя творы мастацтва, якія прыемна і самім пагладзець, і людзям паказаць. Яны, дарэчы, нашу краіну прадстаўляюць (і прадстаўляюць!) у свеце куды цікавей і ўразлівей, чым той жа хвалёны трактар "Беларусь". Яны з годнасцю аздобяць любую еўрапейскую калекцыю ў намінацыі "фальклор" (народнае мастацтва). Ярчэйшы доказ — "Залатая зорка якасці", здабытая "Скарбніцай" у Мадрыдзе.

А каментарый да гэтага факта дырэктар "Скарбніцы" Аляксандр БОНДАР зрабіў такі:

— Прыемна было, вядома, пачуць гэта. Атрымалі і запрашэнне прыехаць і атрымаць узнагароду. Ды — запрашэнне ёсць, а грошай на паездку — няма. Атрымаць яе можна на працягу 3-х гадоў, вось і спадзяёмся, што мо ўдасца як-небудзь узбіцца на грошы ды з'ездзіць у Мадрыд. Хаця, калі праўду казаць, надзей вельмі мала, і з кожным днём усё менш. Як і многія прадпрыемствы, мы ў цяжкім фінансавым становішчы. Асноўная наша праблема сёння — падаткі. Да красавіка мінулага года з нас хоць не браўся падатак на дадатковы кошт, а цяпер — бярэцца, а гэта — 20 працэнтаў ад аб'ёму вытворчасці. Усё, акрамя навуковых распрацовак, абкладаецца падаткамі, нават вырабы ручной работы. Летась гэта склала як-ніяк 120 мільёнаў рублёў. А што за гэтым хаваецца, зразумела кожнаму: павелічэнне кошту нашых вырабаў, тых самых цэн. Нам гэта вельмі і вельмі не па душы, бо праблема са збытам нашых рэчаў і без гэтага надзвычай вострая. У нас няма сваёй крамы, дзе мы маглі б паказаць заказчыкам свае вырабы, свае ўзоры. У асартыментным аддзеле можна купіць ці заказаць, скажам, нацыянальны касцюм, галаўны ўбор, распісаны алеем куфэрачак, выкананае ў старадаўняй манеры пано, тканыя посцілкі ці вырабы з саломкі, але ўсё гэта зацiснута, схавана, не падступіцца, не пагледзець. А каб была крама, каб мы маглі самі прадаваць сваю прадукцыю?! Я лічу, што мы працуем не толькі на сябе. "Скарбніца" працуе на дзяржаву нашу, яна захоўвае, зберагае і развівае саму прыгажосць народнага мастацтва, а гэта цяжка, немагчыма вымераць адно грашыма. Арандаваць дзе-небудзь памяшканне мы не можам, гэта вымагае велізарных выдаткаў, адзін квадратны метр плошчы сёння каштуе недзе 20 долараў. Ну, дапусцім, знойдзем мы памяшканне на метраў 50—60, што гэта будзе азначаць для нас? Павелічэнне прадукцыі прынамсі ўдвая. Хто яе будзе пасля гэтага купляць? Але і другі бок справы. Нашы рэчы бываюць часам у магазінах "Лянок", "Паўлінка", там на іх гандлёвыя надбаўкі да 40 працэнтаў. А хіба іх параўнаеш з тымі, што пастаўлены на паток? Нізавошта! Тым не менш, стаўленне — аднолькавае...

І Аляксандр Аляксеевіч павёў мяне, так бы мовіць, на экскурсію па "Скарбніцы". Пабылі мы ва ўсіх чатырох аддзелах, ці, калі прасцей, у памяшканнях-майстэрнях прадпрыемства. Вочы мае, дальбог жа, разбягаліся ад пабачанага — ад рэчаўтвораў прыгажосці неймавернай і ад таго, як рабіліся яны, тварыліся рукамі майстрых вось тут, у гэты момант, пры мне. Дзівосныя саламяныя шкатулкі, капелюшы, кветкі ў напольныя вазы, нават люстры, не кажучы пра самыя розныя дробныя сувеніры... А — распісное шкло і дрэва, у тым ліку з выкарыстаннем славутага агоўскага роспісу? Ну, а з майстэрні трыкатажных вырабаў я пайшла ў рэшце рэшт цераз сілу. Як жа хацелася самой прыбрацца літаральна ў любы з касцюмаў, якія паказалі мне майстрыхі! Паверце на слова: модніца любога ўзросту з самым вытанчаным густам можа знайсці тут сабе адзенне па душы. У камплектах, касцюмах, сукенках з натуральных матэрыялаў па-мастацку спалучаюцца і ткацтва, і вязка, і мастацкая вышыўка, і апліккацыя... Вырабы гэтыя не тыражуюцца, хоць попыт на іх вялікі, — адзін, два ну тры мадэлі, таму пагрозы, што побач з табой раптам апынецца твой двайнік, як гэта здараецца пасля пакупкі турэцкага шырспажыву, не існуе.

У аддзеле ручнога ткацтва і мастацкай вышыўкі працуюць слаўныя мастачкі: тры Людмілы — Падабед, Паваркова і Тарасюк і Наталля Мядзвецкая. Тут нараджаюцца

(Працяг на стар. 12)













## У родных мясцінах



Пісьменнік Віктар Карамазаў прыехаў у вёску Мірагошч Чэрыкаўскага раёна паглядзець на родныя яму мясціны, апісаныя ім у рамане "Пушча". Тут, на беразе Сожа ў Віктара Філімонавіча нараджаюцца новыя творчыя планы.

*На здымку: у вёсцы Мірагошч.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Свята валожынскіх паэтаў

Напрыканцы мінулага года ў Валянціны Гіруць-Русакевіч выйшла ў свет кніжка вершаў "Я адкрываю вам душу", а ў Міхася Курылы — "Белы птах". З гэтай нагоды 14 лютага ў Валожынскім Доме культуры адбылася святочная вечарына. На ёй прагучалі не толькі творы з кніжак, але і новыя вершы паэтаў.

Каб павіншаваць сваіх калег па пяры, прыехалі з Мінска Казімір Камейша, Мікола Маляўка, Алесь Камароўскі і Віктар Шніп. На вечарыне выступілі загадчык аддзела культуры райвыканкама Сяргей Шаблыка, галоўны рэдактар райгазеты Соф'я Кавяза, дырэктары валожынскіх школ Сяргей Міцэвіч і Яўгенія Шышла, члены літаб'яднання "Рунь", жонка М. Курылы — Таццяна Курыла і сын Максім (вучань чацвёртага класа), які прачытаў свой верш. У выкананні кампазітара з Вішнева Уладзіміра Гаркушы прагучалі песні на словы В. Гіруць-Русакевіч. Вяла святочную вечарыну Ала Барадака.

## Юная і таленавітая



Дзесяць гадоў займаецца Вольга Герасіменя ў студыі керамікі салігорскага Цэнтра дзіцячай творчасці пад кіраўніцтвам Мікалая Аляксеевіча Пратасені. Высокі ўзровень яе майстэрства быў адзначаны на абласным свяце ганчарства "Гліняны звон", дзе Вольга заняла другое месца сярод дарослых майстроў у намінацыі "Народная цацка". Яе прынялі ў Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі. Сёлета Вольга Герасіменя заканчвае школу і збіраецца паступаць ва універсітэт культуры.

*Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА*

*За гарбатай у Шніпоў*

# Львы і авечкі ў час завірухі

***У самы разгар эпідэміі грыпу, у дзень жахлівай завірухі, калі тралейбусныя драты абледзянелі і транспарт па ўсім горадзе ўтвараў безнадзейныя "пробкі", — у кватэры Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай зноў сабраліся госці на чарговую гарбату. І былі сярод тых, хто не збаяўся завірухі і прыйшоў паразмаўляць пра такую неістотную ў наш прагматычны час рэч, як літаратура, доктар філасофскіх навук, тэарэтык літаратуры Уладзімір Конан, паэтэса Людка Сільнова, малады паэт, перакладчык і адзін з лідэраў "Бум-бам-літа" Сяржук Мінскевіч і малады крытык Ірына Шаўлякова. І вось якая размова атрымалася...***

**Л.Рублеўская.** Напрыканцы нашай мінулай "гарбаты" прагучала заяўка чарговай тэмы: новыя імёны беларускай літаратуры... Калі я паспрабавала запрасіць да ўдзелу ў "гарбаце" Івана Антонавіча Брыля, ён сказаў прыблізна наступнае: "Толькі не на гэтую тэму... Мы навучаныя горкім вопытам — называем імёны маладых, хвалім, а яны пасля насы дзяруць..." Таму адразу вызначымся — прапанаваная тэма не мае нічога агульнага з тэмай "імёны маладых пісьменнікаў". Гэта, відаць, толькі ў "правінцыйных", так званых "малых" літаратурах прынята — чалавек адзін раз надрукаваўся, а яго імя ўжо лічыцца "ў літаратуры"... Між тым, у літаратуры імя з'яўляецца не з першай публікацыі, а калі — паспрабуем вызначыць у гаворцы. Першапачатковая стадыя "заяўкі імёнаў" сапраўды вельмі экстрапаліраваная. Імёнаў пачаткоўцаў вельмі шмат. З іх уваходзіць у літаратуру невялікі працэнт. Французскі літаратар П.Валеры казаў: "Леў — гэта толькі з'едзеныя ім авечкі", маючы на ўвазе пісьменнікаў вядомых і пісьменнікаў маргінальных, чые творы застаюцца па-за хрэстаматыямі. Як узнікае гэты падзел на "львоў" і "авечак"? Рэдка бывае так, што ад пачатку творчай дзейнасці відаць, што перад намі — літаратурная велічыня. Звычайна ў 16—17 год таленавітыя маладыя людзі пішуць на адным узроўні... Прайшоў час, глядзіш — большасць з гэтага пакалення знікла, а адно—два імёны сапраўды ўвайшлі ў літаратуру. Ян Парандоўскі, польскі даследчык літаратуры, сцвярджае, што славу сваю — прыжыццёвую — пісьменнікі робяць самі. Ні Петрарка, ні Вальтэр не спадзяваліся на тое, што іх нехта заўважыць, ацэніць. Аказваецца, яны не грэбавалі нічым, каб дабіцца вядомасці. І цяпер адбываюцца рэкламныя кампаніі пісьменнікаў. Сюды ўваходзіць і паняцце аўтаміфалагізацыі. Можа быць, мала пісаць таленавітыя творы, а трэба займацца, па прынцыпе сімвалістаў, жыццятворчасцю?

**С.Мінскевіч.** Кафка нічога не рабіў са сваім жыццём і нават папрасіў, каб пасля смерці спалілі ўсе ягоныя рэчы...

**Л.Рублеўская.** Тым і адбыўся факт, які спрыяў міфалагізацыі. Бо да пісьменніка могуць прыцягнуць увагу і нейкія неспрыяльныя асаблівасці яго лёсу — п'янства, неўладкаванае асабістае жыццё, спроба самагубства, ранняя смерць.

**С.Мінскевіч.** Кафку ніхто не заўважыў з-за яго смерці. Гэта проста выпадак, што яго спадчыну ацанілі. Тое самае і з Хармсам — выпадак, што плён творчасці захаваўся...

**У.Конан.** Я думаю, Кафка быў упэўнены, што яго рукапісы не спаляць.

**І.Шаўлякова.** Імя пачынаецца ўжо з самога імя... Вось у майго суседа па канапе — Сержука Мінскевіча — ажно некалькі псеўданімаў. Ён і Сяргей Мінскевіч, і Сяржук Мінскевіч, і Серж Жук-Мінскевіч... Тут і пачатак аўтаміфалагізацыі...

**С.Мінскевіч.** Гэта проста розныя іпастасі аднае асобы. Форму подпісу вызначае жанр твора.

**У.Конан.** І Кафка, і Шэкспір сталі прызнанымі імёнамі ўжо пасля смерці. Шэкспір быў акцёрам, правінцыйным драматургам, вядомым толькі ў сваёй акрузе. Можа быць, ён і быў бы вядомы толькі ў Англіі, каб Англія не стала імперыяй і яе культура не распаўсюдзілася па ўсім свеце. Тады і Шэкспір стаў геніяльным. Купала, на маю думку, не ніжэй за Шэкспіра. Каб Беларусь стала імперыяй, і Купала стаў бы сусветным геніем. І наогул я — за авечку, я супраць львоў... Самы геніяльны хрысціянскі пісьменнік — Ісус Хрыстос, агнец. І Яго з'елі. Але сваёю смерцю ён перамог смерць. Відаць, ёсць тое, што для вечнасці, а ёсць тое, што для часу. У нас блытаюць папулярнасць і талент, геніяльнасць. Я думаю, Пушкіна, калі ён жыў, ведала невялічкая група аматараў паэзіі. Расія зрабілася вялікай імперыяй, і Пушкін зрабіўся сусветным паэтам. І калі Беларусь застанецца ў такім стане, у якім яна цяпер, хай будуць тут Шэкспіры, Мільтаны — ніхто не даведаецца пра іх. Вядома, калі браць лакальна беларускую літаратуру, можна казаць пра папулярнасць у яе прасторы. А ўвогуле часам бывае так, што ягняты з'ядаюць льва. Ці маладыя пакаленні выцясняюць старэйшых... Той жа Кафка быў хутчэй агнец: не ён з'еў — яго з'елі.

**Л.Рублеўская.** Трэба адрозніваць пісьменніка — як фізічную асобу, і пісьменніка — як сукупнасць яго твораў. І творчасць Кафкі — добры такі леў, які з'еў ладную плойму авечак і працягвае есці...

**У.Конан.** Сапраўды, творцу патрэбная воля, інтэнцыя. Чалавек, пазбаўлены іх, пазбаўляецца і таленту. Патрабуецца, пэўна, і некаторае "нахабства"...

**І.Шаўлякова.** Наша літаратура — сістэма кланаў. І ў кожным клане — свае імёны. У "Першацвеце", у "Бум-бам-ліце", у Таварыстве вольных літаратараў... Нават вакол перыядычных выданняў утвараюцца свае групоўкі. Можа быць, сапраўднае літаратурнае імя — гэта калі яно прызнаецца ўсімі "кланамі"?

**С.Мінскевіч.** Мне не падабаецца тэрміналогія "леў" і "агнец". Маецца на ўвазе, што "леў" прыцягвае да сябе больш увагі, чым "агнец"... А ў "агнца", можа быць, тыя самыя ідэі ўзнікалі раней, але ён не здолеў прыцягнуць да сябе агульную ўвагу. Ідзе барацьба за інфармацыйнае поле. Літаратурныя "кланы", зразумела, існуюць, але яны творы адзін аднаго ўсё-ткі чытаюць... Мы кажам, што Беларусь — маленькая дзяржава, мы нічога не можам у ёй дабіцца... Ямайка яшчэ меншая. Там з'явіўся Боб Марлей, які стварыў новы музычна-літаратурны стыль — рэгей, і Ямайка стала імперыяй гэтага стылю.

**Л.Рублеўская.** На шчасце, не толькі штучнае прыцягненне да сябе ўвагі робіць імя. Юрый Станкевіч, які ні ў якіх "інсталяцыях" не ўдзельнічаў, звярнуў апошнім часам на сябе ўвагу выключна сваімі творамі. У нашым уяўленні ён уваходзіць у генерацыю маладых — якія шукаюць, эксперыментуюць, маюць творчы патэнцыял. Хаця ўзростава ён належыць зусім да іншага пакалення...Вось яно — новае імя беларускай літаратуры без аўтаміфалагізацыі.

**І.Шаўлякова.** Тут жа можна назваць і Міколу Купрэева, паміж першай і другой кніжкамі якога прайшло трыццаць гадоў. М.Купрэеў, як і Кафка, не займаецца аўтаміфалагізацыяй, ён жыве па несвядомым прынцыпе жыццятворчасці. Жыве так, таму што інакш не можа.

**Л.Рублеўская.** Але каб не было Леаніда Галубовіча, не адкрылі б мы цяпер гэтае імя... Пасля, калі-небудзь — магчыма... Патрэбен усё-такі энтузіяст, які паслядоўна захаванню, надрукаванню твораў — так, як сябры Кафкі, Эмілі Дзікенсан...

**І.Шаўлякова.** Важная і частотнасць з'яўлення твораў у друку... Але гэта шлях вельмі небяспечны, не ўсім на карысць. Хаця вось, напрыклад, малады паэт Алесь Дуброўскі з'яўляецца досыць рэгулярна ў розных выданнях. Там не было раптоўнага ўсплёску — ён паступова "расце". А часам чалавек у частых публікацыях "выпісваецца"...

**Л.Рублеўская.** Для мяне прыклад увесьчаснай актуалізацыі імя і ўвогуле прыклад прафесійнага белетрыста — Іван Шамякін. Як ён адгукаецца на ўсе тэмы! Прачытала ў апошнім нумары "Полымя" яго "Палескую мадонну" — і, ведаеце, "закранула" мяне...

**І.Шаўлякова.** Гэта валоданне нюансамі сентыментальнага пафасу.

**С.Мінскевіч.** Іван Шамякін мае магчымасць прафесійна пісаць, а я павінен зарабляць грошы, каб пражыць... Праўду Сяргей Кавалёў казаў — лепей пісаць п'есы... Напісаў адну — і паўгода займаешся тым, дзе яе паставяць, хто... Жывеш на ганарары. А празаіку трэба пісаць, мучыцца кожны дзень.

**У.Конан.** Трэба ж мець драматургічны талент. У Івана Чыгрынава, напрыклад, хоць і ставілі яго п'есы ў тэатрах, фраза халодная, добрая для эпікі — не для сцэны. Увогуле, пісьменнік павінен жыць дзевяноста гадоў — каб пісаць пад старасць ціха, без крыку, без шуму...

**С.Мінскевіч.** А ці ў нашым часе могуць з'явіцца Шэкспіры?

**У.Конан.** Паводле Эклезіяста, усё вяртаецца, паўтараецца, толькі на іншым узроўні. У сувязі з гэтым можна ўспомніць міфалагемы горада Б* прысутнай тут нашай пісьменніцы Людмілы Рублеўскай, што друкаваліся ў "Крыніцы". Яны прываблівалі адукаванага чытача сваёй мастацкай дасціпнасцю. Летась я працаваў над тэмай беларускай міфалагемы ў кантэксце сусветнай міфалогіі... Скажам, міфалагема пастух — гэта і Бог, і музыкант, і Арфей, і Сымон-музыка...

**І.Шаўлякова.** А можа быць, імёны класічнай літаратуры і імёны эпохі постмадэрнізму нельга вызначаць па адных крытэрыях?

**У.Конан.** А што змянілася? З'явіліся камп'ютэры? Але яны не больш, чым электронныя машыністкі... Увявім, што Адам Мальдзіс не ездзіў бы сам па розных архівах, а камп'ютэр выдаваў бы яму звесткі, дзе якія дакументы ёсць пра Беларусь. І не з'явіліся б цудоўныя кнігі Адама Мальдзіса пра яго вандроўкі... Гегель сфармуляваў гэта так: каштоўнае заключаецца не толькі ў выніку, але і ў шляху да выніку...

**Л.Рублеўская.** Ёсць надзейны шлях для ўтварэння "новых імёнаў" — аб'яднанні, суполкі з кідкімі назвамі, незвычайнымі праграмамі, імпрэзамі, інсталяцыямі... Іх лягчэй запомніць, чым асобнага літаратара.

**С.Мінскевіч.** "Бум-бам-літ" — гэта арганізацыя, дзе аўтарам адразу кажуць: вы — ільвы, вы — не авечкі...

**Л.Рублеўская.** Імя запамінаецца і ў тым выпадку, калі з аўтарам звязана нешта характэрнае, ёсць нейкая своеасаблівая рыса творчасці... Напрыклад, Людка Сільнова — гэта "рысасловы".

**Л.Сільнова.** Было проста некалькі графічных вобразаў слоў, я друкавала іх у "Крыніцы"... Праз нейкі час Алесь Аркуш прапанаваў стварыць мне такую кніжку. Але, па сутнасці, я не ўваходжу ні ў якія аб'яднанні. Мяне проста цікавіць творчасць розных нефармальных суполак, але я ўсё-такі застаюся сама па сабе...

**Л.Рублеўская.** Маем несупадзенне іміджу і асобы — бо ў маім, у прыватнасці, уяўленні Людка Сільнова — прадстаўніца паэзіі нетрадыцыйнай, і абавязкова павінна належаць да нейкай плыні — бо ўся прастора нашай нетрадыцыйнай літаратуры нібыта падзелена на плыні, суполкі...

## Для будучых настаўнікаў

У выдавецтве "Вышэйшая школа" выйшла хрэстаматыя "Беларуская дзіцячая літаратура", складзеная М. Яфімавай і В. Ляшук. Кніга дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для навучэнцаў педагагічных вучылішчаў нашай краіны. У аб'ёмным томе прадстаўлены творы класікаў нацыянальнай літаратуры Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Янкі Маўра, пісьменнікаў, якія і сёння плённа працуюць у галіне дзіцячай літаратуры.

## "Наш современник" — пра Беларусь

Стварэнне супольніцтва Беларусь—Расія стала імпульсам узмацнення не толькі эканамічных і палітычных сувязяў паміж дзвюма суверэннымі дзяржавамі, а і пашырэння культурных стасункаў. Адно са сведчанняў гэтага — выхад першага ў сёлетнім годзе нумара вядомага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса "Наш современник", у якім значная частка матэрыялаў змешчана ў раздзеле "Слова Белой Руси".

Адкрываецца падборка гутаркай намесніка галоўнага рэдактара "Нашага современника" Аляксандра Казінцава з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам. У часопісе змешчаны аповесць Івана Шамякіна "Бумеранг", апавяданні Алеся Савіцкага і Уладзіміра Глушакова, публіцыстычны артыкул Эдуарда Скобелева, вершы Валянціна Лукшы, Уладзіміра Някляева, Генадзя Пашкова, Андрэя Скарынкіна, Ніны Шэлдышавай...

## Першы з пяці...

Як вядома, выдавецтва "Мастацкая літаратура" мае намер выпусціць у пяці тамах збор твораў народнага паэта Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рыгора Барадуліна. Пабачыў свет першы том, у які ўвайшлі вершы з кніг "Маладзік над стэпам", "Рунець, красавадь, налівацца", "Нагбом", "Неруш", "Адам і Ева", "Лінія перамены дат" і іншых. Прадмову напісаў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіль Сёмуха.

## З'явіўся "Рагачоўскі розгалас"

На Рагачоўшчыне адбылася падзея, аб якой у іншых раёнах могуць толькі марыць. Выйшаў у свет літаратурна-мастацкі альманах "Рагачоўскі розгалас", у якім змешчаны біяграфічныя звесткі і творы таленавітых людзей, звязаных жыццём і творчасцю з гэтым краем. Шырока прадстаўлены Міхась Лынькоў, Уладзімір Караткевіч, Андрэй Макаёнак, Мікола Янчанка і Уладзімір Немізанскі, рагачоўскія літаратары, якія добра заявілі пра сябе ў паэзіі і прозе, друкуюцца ў рэспубліканскіх часопісах і газетах, — Васіль Клімянкоў, Уладзімір Шпадарук, Віктар Паўлаў, Ніна Пінчук, Міхась Сліва, Васіль Дружкоў. Прадстаўлена ў альманаху і творчасць літаратурнай моладзі. Асобны раздзел адведзены самадзейным мастакам, скульптарам, разьбярам па дрэве.

Мастацкае афармленне кнігі зрабіў вядомы рагачоўскі мастак Уладзімір Паладзенка, фотаілюстрацыі — журналіст Мікалай Рудзькоў. Альманах надрукаваны накладам у тысячу асобнікаў у Магілёўскай абласной друкарні на сродкі многіх прадпрыемстваў і арганізацый горада і раёна.

Міхась КАВАЛЁЎ

## Знаёмае імя

Вершы Міколы Шабовіча вядомы чытачам "ЛіМа", дзе яны ў свой час змяшчаліся, а яшчэ паэт друкаваўся ў калектыўным зборніку "Крыло", альманахах "Дзень паэзіі", часопісах "Маладосць", "Беларусь", "Роднае слова", "Бярозка". Родам М. Шабовіч з вёскі Бадзені Мядзельскага раёна. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (сённяшні педагагічны універсітэт імя Максіма Танка). Настаўнічаў, а цяпер, закончыўшы аспірантуру, выкладае родную мову ў альма-матэр.

І вось першая кніга М. Шабовіча "Дом", што папоўніла "Бібліятэку часопіса "Маладосць".

ПАЭЗІЯ

Леанід ЯЎМЕНАЎ



# Гатавіцкія вершы

### Белая цішыня

Уцякаю ад тлуму ў самоту
Зледзянелага дня —
Замяла край маёй журботы
Белая цішыня.

Скрозь па стрэхі спавітыя вёскі:
Ні сядзіб, ні стагоў —
У пустэльнае нерушы боскай
Не відно берагоў.

Гэта ў вечнасць і казку дарога
Праз забелены дол
Гоіць сціпна пакуты былога,
Студзіць сённяшні боль.

Будзіць вечнае наша пытанне,
Скуль сюды набрылі?..
Хто мы, што мы, ці людскага звання
Усе на гэтай зямлі?..

Замялі ці не цалкам планету
Снегавеі да дна.
Шмат хавае ад нас і сусвету
Белая цішыня...

### Страпянецца радасць

Ткуць завеяў кросны
Белае сукенца.
Бранзавеюць сосны
Пад маім акенцам.

Сонейка з-за хмараў
Усё часцей мільгае —
Веснавыя мары
Зычыць небакраю.

І не даць ёй рады
Усмузе марознай —
Страпянецца радасць:
Мо яшчэ не позна?..

Мо яшчэ магчыма
Ў кожнай сціплай хаце
На зямлі радзімай
Мець хоць трошку шчасця?..

Мо яшчэ й самому
У тузе бясконцай,
Як калісь малому,
Усміхнецца сонца?..

У адказ халоднай
Немачы зарукай,
Нібы воўк галодны,
Вые завіруха...

### Зімовая песня пра шчасце

Кружаць снягі
Над маёй галавою,
Студзяць душу,
Як адвеку бяда, —
Шчасце шукаюць
Па свеце не двое,
Шчасце ж збягае,
Бы ў рэчцы вада.

Дзе яно ходзіць,
Дарогай якою,
Дзе яно свеціць
І лашчыць каго?..
Можа — над ціхаю
Бесядзь-ракою,
Можа — над хатай
Дзяцінства майго?..

Знаць, развялі нас
Крывыя сцяжыны,
Ці праклялі
Даўніх продкаў Багі?..
Ці, можа, лёс
Гэтай горкай краіны
Злучыць калісьці
Нашы шляхі?..

Кружыць зіма
Над застылаю беллю,
Як над зямлёю
Адвеку бяда:
Светам брыдзе
Наша доля нясмела —
Шчасце збягае,
Бы ў рэчцы вада...

### Цьмяны акраец лесу

Плача на ўскрайку лесу
Змерзлы дашчэнту пугач:
Пасвіць у полі месяц
Сумныя гукі "ку-га".

Водзіць маю адзіноту
Даўняй сцяжынай журбы,
Няньчыць нядолі галоту,
Колькі б не гнулі гарбы.

Ганіць зямную планету,
Холаду цягне віно,
Моліць у прашчураў свету,
Каб даравалі адно.

Цьмяны акраец лесу,
Белая сцюжа наўкол:
Вецер здзічэлы на месяц
Свішча ў асінавы кол...

### У сонных лясах

Гуляюць у белых палях
Сівыя, як лунь, завеі.
Туляюцца ў сонных лясах
Зіхоткай зімы чарадзеі.

Такое паўсюль харaство, —
Як тая малеча, дурэю:
Бы новага Бога ражство,
Душу дзіўнай радасцю грэе...

Ды колькі жыву на зямлі,
Дагэтуль не здольны даўмецца,
Адкуль жа на гэткай зямлі
Бярэцца нялюдскасці смецце?..

Чаму яно тчэ праз вякі
Дасюль столькі звады і здрады,
Адкуль ён, народзец ліхі? —
Дагэтуль не дам сабе рады...

Туляюцца ў сонных лясах
Зіхоткай зімы чарадзеі.
Гуляюць у белых палях
Сівыя завеі...

### Гінуць быцця запаветы

Кружыць па белым свеце
Снег цішыні, —
Мроіць зіма аб леце:
Гукаў ані...

Трызніць блакітам знямела,
Чыстай ракой, —
У запаволенай белі
Мір і спакой...

Не навучыліся людзі
Слухаць зямлю:
Гвалт засявае брудам,
Смерцю раллю.

Душы агортвае морак
Хіжых людзей,
Жах немінучага гора
Краем брыдзе.

Гінуць быцця запаветы
І карані...
Кружыць над белым светам
Снег цішыні...

### Будзіць лёс

На лес вятруга гнеў абрынуў,
П'яны, галосіць штось вясне,
Сваволіць блазан, у ялінах, —
Страсае снег.

Разбойным свістам поўніць гоні,
Калоціць мроіва бяроз,
Здранцвеласць сэрцаў прочкі гоніць
І будзіць лёс.

Здзірае, бы чадру з дзяўчыны,
Вякоў зняволеных праклён, —
Зямлі, спрадвечнае рабыні,
Страсае сон.

### Свята веру

*І. П. Антонаву*

Край стары мой увесь у абновах,
Скрозь бялеча — снягі ды снягі:
Замяло ўсе бары і дубровы,
Сёлы ціхія і шляхі.

Завірухі, бы дзікія коні,
Скачуць, вольныя, у лютай зіме —
Усё да кропелькі ў белым палоне,
Усё дарэшты у снежнай турме.

Свята веру і верыць я мушу:
Гэта край, дзе жыве дабрыня.
Тут не згубіцца ў мораку душы,
Не сканае людзей цеплыня...

Нарадзіліся, быццам нанова,
Сёлы ціхія і шляхі:
Замяло ўсе бары і дубровы,
Скрозь бялеча — снягі ды снягі...

З ПОШТЫ

Міхась КУРЫЛА

# "Пералістае вецер памяць..."

### У графскім парку

У графскім парку спальваюць лісцё...
Што пражыта — адлятае з дымам.
Ды з нейкім
невыказным пачуццём
Раблю апошні чорна-белы здымак.

На фоне шэрых будняў — з небыцця —
Паўстаў — Вангогаўскі Палац...
Альтанка...
Фантан разбураны...
І — як працяг
Карціны — Львы,
ледзь сонныя, ля ганка.

Калісьці гэтых самых сонных львоў
Прывёз сюды Тышкевіч
аж з-пад Рыма..
Пушчанскі край не знаў такіх звяроў,
Бо ў нас для львоў быў надта
строгі клімат.

А. глянь, і — прыжыліся... І жывуць.
Вартуюць графскі дом
з калонай арак.
І хай мінулае назад не павярнуць,
Ды — як утульна тут,
Ля гэтай
львінай
пары!..

### Лістабой

І зноў лістае восень лісце.
І гасіць дождж рабін кастры.
А ля муроў, як і калісьці,
Гуляюць рыжыя вятры.

Чаму ля Храмаў столькі птушак?
Павінна ж болей быць — людзей...
А, можа, гэта — продкаў душы,
Якім сабрацца няма дзе?..

Пералістае вецер памяць.
Лісцё засыпле след кастроў.
Ды будуць птушкі сум свой правіць,
Як і калісьці, ля муроў.

### Сустрэча ў верасні

...табе, разумею, й не верыцца,
што верасень некалі — вернецца...
Аднойчы,
ў цішы не пачутая,
на беразе левым
спатканая,
Ты — стала маёй пакутаю
на правым,
зусім стаптаным.

Як звер, у цяпло паверыўшы,
па ветру іду радзімым;
паверу,
што быў — не першым
(І, пэўна ж, не самым лепшым),
ды веру: застаўся — адзіным.

Світанак мой човен вынесе
да кладак — цярпення высяў,
нас выкупае — у верасе
доўгачаканага
верасня,
што, мабыць, табе й не сніўся!..

г. Валожын

ПРОЗА

Мікола ДУБОЎСКІ

# ХУТАРАНЕЦ

АПАВЯДАННЕ

МІКОЛА ВАРОНА, гаспадар адзінокага хутара, што яшчэ з-за панскіх часоў месціўся ля старой граніцы, з самага ранку пад павеццю сек галлё. Ён нацягаў яго летам з трыбы-высечкі для высакавольтнай лініі. Яе аж з Заслаўя працягнулі, каб даць святло шматлікім катэджам, якія ўзвысіліся побач з сялібай Вароны. Цяпер яго хата пры трох высокіх бярозах ды пуня глядзеліся тут неяк нязграбна і недарэчна. Раней селішча хаваў ад усялякага злога вока векавы бор. Але час, праз які пракаціліся войны, адагнаў смалістыя медзяныя сосны амаль ці не на кіламетр, і хутар апынуўся ў полі. Яго некалькі гадоў аралі і засявалі, калі спрабавалі даганяць Амерыку, а пазней змагаліся за цэнтнеры зерня, мяса і малака. Апошнія пяць гадоў поле выкарыстоўваў мясцовы саўгас пад пашу, а потым зусім забыў яго, бо змарнела жывёлагадоўчая ферма ў Мяцёлках, вёсцы за сем кіламетраў ад граніцы. Калі ля хутара перастала пасвіцца і скаціна, Варона адчуў сябе лепей — касіў сена ўдосталь і бульбы сеяў больш — спадзяваўся, пакуль не пакінулі сілы, хоць пераваліла на восьмы дзесятак, палепшыць жыццё за кошт лішку харчу. Аднак ягоны разлік не спраўдзіўся. У хуткасці былое прыграніччa, ціхае і ўтульнае, аблюбавалі новыя гаспадары.

Варона рыхтаваў паліва амаль да палудня. Увесь гэты час з нізкага лістападаўскага неба сеяўся спорны дождж. Ля ног старога ўтварылася лужа і пагражала насечаным дровам. Мікола выйшаў з-пад павецця і глянуў на катэджы. Там было бязлюдна.

— Няўжо з'ехалі ўсе? — Варона вярнуўся назад і вырашыў больш не секчы галлё, а павязаць нарыхтаванае ў пучкі і скласці павышэй, каб не даставала вада.

Дождж не спыняўся. Мікола круціў з саломы перавяслы і звязваў імі пасечаныя галіны. Так рабіў ягоны бацька, і ён пераняў ад яго гэтую справу. У маразы дастаткова дзвюх такіх вязанак, каб грубка не астывала амаль суткі.

— Мудрыя былі старыя, — звязваючы пучок за пучком, думаў гаспадар, — умелі і хаты будаваць, і грубкі складаць. Заўсёды цяпло... А як жа яны? — Мікола глянуў, дзе, як забытыя дарагія цацкі, моклі апусцелыя катэджы. — Як жа яны абагрэюць свае касцёлы і цэрквы? Навошта ім яны? А ўсё таму, што грошы іх уладальнікамі несумленна здабыты. Не царскага ж роду... Ан не — давай спрабуем... А гэткае жыццё ўсё роўна не для іх. Пацешацца, пацешацца і вялікія грошы будуць у пясок выкінуты, бо неразумна скарыстаныя.

За гэтымі думкамі стары не заўважыў, як разышліся хмары, і з недалёкага бору вышчарылася нізкае чырвонае сонца. На нейкі час упалі доўгія чорныя цені ад бяроз аж на дзялянкі, яшчэ з вясны ладна апрацаванай і дасыта ўгноенай зямлі, якая цяпер належала ўладальнікам катэджаў.

Варона кінуў вязаць пучкі і зноў узяўся за сякеру. Яму вельмі хацелася пасекчы сухое галлё да канца. Ён цюкаў і цюкаў сякераю, цалкам аддаўшыся справе.

— Сцяпанаўна! Глянь, якія венікі! — данеслася да Вароны. Ён узняў галаву і ўбачыў на бульбянішчы незнаёмых жанчын.

— А мы ж вясною трактарам тут тры разы перааралі. Я вілкамі кожнуюградку перавярнула. А каранёў — як хто насеяў. І лесу блізка няма.

— А вунь што? — Сцяпанаўна, гадоў за трыццаць мажная кабета, паказвала гаварыўшай на бярозы. — Волаты — не дрэвы. Іх карані да нас паўзуць, Пятроўна, як гадзюкі па балоце. Спасу не будзе, калі не спілаваць.

— Навошта Бог пакінуў тут гэтую хібару? Ёй даўно згніць... — працягвала Пятроўна. — І старому час з унукамі ў пясочку гуляць, а ён на гарбе ламачча ўсё лета цягаў. Зімаваць збіраецца.

— Розум яго, пэўна, таго... — пакруціла тоўстым кароткім пальцам ля скроні Сцяпанаўна. — Інакш даўно спілаваў бы бярозы — дроў колькі... Да самай смерці хапіла б. Пагавары, Пятроўна, са сваім, хай падкажа дзеду спілаваць бярозы, а то ж ратунку не будзе — высмакчуць з глебы ўсё, што ўкладзем.

Варона не падаў выгляду, што чуе гамонку суседак, і зноў узяўся за сякеру. Аднак пачутае не выходзіла з галавы:

— Бачыш, бярозы ім мяшаюць. У Ляшчынскіх-асаднікаў, дзе яны паставілі свае палацы, сад які быў. Антонаўка радзіла, гэтаю парою пах яе яблык праз граніцу чулі. Пры саветах, калі асаднікаў у Сібір забралі, іх лес і зямлю заслаўскаму калгасу аддалі, выцерабілі дрэвы, пні вырвалі і сеялі канюшыну. Радзіла — мае бярозы не мяшалі. А ім, бачыш... як бяльмо не вачох.

Міналі дні, узнікалі іншыя гаспадарчыя клопаты, і нараканні жанчын Варона амаль забыў. За гэты час схадзіў у лес і на аднаму яму вядомым месцы нарэзаў мех маладзенькіх апенькаў, насаліў аж два эмаліраваныя вядры. Калі грыбы дайшлі, адно адвёз у Заслаўе сыну. Быў якраз полудзень. Нявестка, убачыўшы салёныя апенькі, доўга здзіўлялася — бо сёлета мала хто іх знаходзіў, а потым нават прапанавала сто грамаў. Мікола не стаў піць і сабраўся дамоў. У гэты час зайшоў сын Валодзька і з парога расплыўся ўсмешкаю:

— Ты, тата, дарэчы прыехаў — я збіраўся даўно да цябе наведацца — хваляваўся. Табе ўжо не па гадах там быць аднаму. Давай прадамо хату каму на дровы, а ты сюды пераедзеш. Будзем разам жыць.

Стары Варона рашуча адмовіўся і ўзяўся за клямку.

— Ну што ты там знайшоў? Ні каровы ў цябе, ні казы. Курэй нават не трымаеш. Толькі гарод садзіш. Хочаш у зямлі поркацца — калі ласка, тут у нас ля канала кінутае яе колькі... Абы рукі былі — бяры рыдлёўку і капай. Ты думаеш старшыня тамашняга саўгаса тваю ланку пад новыя палацы не прадасць. Усё спусціць... аж да старой граніцы. Даляры, тата, грэюць лепш печы. Ягоны час цяпер. Пры камуністах пабаяўся б, а цяпер — самыя камуністы хапаюць зямлю і будуюць палацы за партыйныя грошы, якіх набраліся, калі адчулі, што іхняй партыі каюк.

— Вось калі і мне даляры прапануюць за палітую потам маю ланку, мо і зрушу. — Бацька сыну ўсміхнуўся і знік за дзвярыма.

У канцы лістапада спыніліся дажджы, пасушэла пад нагамі. Не-не і паказвалася сонца. Яно нейкі час пунсавела ў галінах высокіх соснаў, затым знікала за імі, і праз якую гадзіну на вуліцы цямнела. Варона ўвесь светлы час корпаўся на двары. Занятку хапала — то яблыні абкопваў, каб карані не падмерзлі, то лісце, што асыпалася з бяроз, зграбаў і паліў. Адным днём за такім заняткам яго засталі двое мужыкоў, апранутых у спраўныя замежныя курткі. Стары не пачуў, як яны пад'ехалі на "мерседэсе" і праз адчыненыя веснічкі ступілі на двор.

— Добрага здароўя, дзеду, — павітаўся першы. Другі моўчкі кіўнуў галавою.

— Здароўе, як Бог пашле, — з усмешкаю зірнуў на незнаёмцаў Варона.

— Мы да вас па справе, праўда, пусцяковай, але ж адны яе не вырашым, — працягваў першы. Другі ўважліва мераў позіркам знізу і да верху бярозы, як прыцэньваўся. Гаспадар здагадаўся, чаго яны прыйшлі, і зноў усміхнуўся:

— Бярозы, мабыць, прычына. Чуў, што шкодзяць гаспадарам катэджаў, хоць стаяць, пэўна, гадоў сто ля хаты, спачатку майго дзеда, потым бацькі, а зараз — маё выходзіць. Нікому не шкодзілі, а цяпер, кажуць, псуюць зямлю ім, — стары паказаў рукою ў бок катэджаў. Вы, мусіць, ад іх?

— Хай вас гэта не турбуе! — раптам загарачыўся другі мужчына.

— Пачакай, Алесь, — перапыніў яго першы. — Мы хочам купіць у вас дровы. Самі спілуем, забяром... Трыста баксаў хопіць?

— Навошта яны вам? — паглядзеў на бярозы Варона, — не на дровы ж?!

— На паркет! — выпаліў імгненна Алесь.

Першы мужчына зло глянуў на яго:

— Які з іх паркет! У нас свой інтарэс. Трыста даляраў — добрая цана. Згаджайцеся.



— Трыста, канешне, грошы. Але з іх, — Мікола паказаў на бярозы, — амаль ці не пульман драўніны.

— Трыста пяцьдзесят і па руках.

Варона зірнуў на бярозы, як быццам прыкінуў, ці не танна будзе, і махнуў рукою.

— Ну вось і дамовіліся, — хітравата падмігнуў усё яшчэ спахмурнеламу Алесю першы мужчына. — Заўтра прыедзе кран, і не тое, што спілуем іх, выньмем адсюль. Двор пабольшае і ў хаце пасвятлее. Убачыце...

Калі госці паехалі, Мікола нейкі час радаваўся:

— Грошы як з неба ўпалі. Мо каня ўдасца купіць. З ім заўсёды з хлебам будзеш.

Варона дапазна быў на вуліцы. Спраўляўся па гаспадарцы і не пераставаў думаць пра заўтрашні дзень.

Пасля вячэры, дачакаўшыся, калі дагарыць грубка, стары лёг у пасцель. Два гады назад, як раптоўна памерла жонка, ён доўга пакутаваў ад бяссонніцы — вельмі нудкаваў па сваёй Ганне. Потым навучыўся спаць. З таго часу і клаўся, як толькі ноч ахіне двор. Засынаў хутка, але сёння сон не ішоў. На вуліцы завыў вецер, жалобна зашумелі бярозы. Варона ляжаў і слухаў іх. Яму здалося, што яны жаласлівей шапацяць, чым раней, малоцяць безупынна веццем па старых гонтах. Ды й вецер нейкі галосячы.

— Што гэта яны так шумяць, як плачуць? — уздыхаў Варона. Наплылі ўспаміны. Чамусьці прыгадаліся дзедавы згадкі.

— Я, унучку, для хаты бярвенца за бярвенцам зімою на двух саначках з лесу навазіў, во гэтымі мазалямі.

— Хату склаў, — дакараў сябе Варона, — а не спілаваў, мо й енчаць так, што чуюць сваю канчыну. Бацька таксама не ссек. Мне арэлі на іх павесіў. А я?..

Стары зноў пачуў стогн дрэў. Да гэтага ён ніколі не звяртаў увагі на іх шум. У такую непагадзь ён, то кароткі, то працяглы, быццам матчына калыханка, спрыяе сну. Дрэвы шумелі як плакалі, вярэдзілі незразумела душу.

Варона не спаў, плылі і плылі ўспаміны. Уявілася далёкая месячная ноч перад першым вераснем, калі пачалася вайна. Тады назаўтра бацька збіраўся везці яго, семнаццацігадовага юнака, у Маладзечна, дзе ён вучыўся у гімназіі. Вечарам маці сабрала яму хатуль, прысела на прыступку памастка, каб нагаварыцца з сынком. Мікола прымасціўся на арэлях і, адказваючы на яе бясконцыя пытанні, нясцерпна паглядаў на сад Ляшчынскіх — адкуль да яго вось-вось прыйдзе Яня, каб развітацца, бо таксама ранічкай паедзе ў Вільню, ва універсітэт, дзе вучыцца на ўрача.

Яня затрымлівалася. Мікола, хаваючы сваё хваляванне ад маці, адказваў ёй часам неўпапад. Маці ўсміхалася:

— Сынок, яна яшчэ каровы доіць — чатырох не хутка падоіш.

— Я не хвалююся, мама, ведаю, што прыйдзе, — ісці дзесяць крокаў — праз сад — і тут.

Месяц даплыў да бору, які пад яго святлом віднеўся як днём. Маці пакінула Міколу недзе каля поўначы, прыкрыла дзверы сенцаў і знікла.

Яня з'явілася нечакана — худзенькая, у белай сукенцы паўстала перад ім, як спусцілася на зямлю зверху, з прыціхлых бяроз.

— Міколачка! — шэптам вымавіла яна. Ён ускочыў, падхапіў яе на рукі і асцярожна пасадзіў на арэлі. А сам, прысеўшы перад ёю, стаў горача цалаваць яе рукі, тонкую пахнучую рамонкамі шыю, а затым гарачыя, як у спякоту, губы. Яна не супраціўлялася, а толькі мацней і мацней прытуляла да грудзей ягоную кучаравую галаву.

Пацалункі цягнуліся бясконца. Мікола раз'ятрыўся цалкам і ўжо не кантраляваў свае рукі, якімі асцярожна паклаў на габляваную дошку арэляў Яніну і прыціснуўся да яе гарачага цела. У гэты ж момант на памастку паказалася ў белай доўгай кашулі маці:

— Спыніцеся! Заўтра вам будзе вельмі балюча. У вас шчэ будзе час на такое.

— Памылілася ты, родная, — уздыхнуў Варона. Часу больш не было. Ранічкай стары Ляшчынскі завёз Яню на станцыю. Мікола з бацькам выехалі пазней. Перад Радашковічамі іх спынілі паліцыянты.

— Вруцайце дадому. Война... Гітлер на нас ідзе, — паведамілі яны і пагналі галопам сваіх коней у бок граніцы.

У думках Варона зноў вярнуўся да бяроз. Яны то заміралі як заходзіліся, быццам малое дзіця пры моцным плачы, то дружна безупынна шалясцелі, злосна секлі галінамі стары дах.

— Як жывыя, — мовіў пра сябе Варона. — А я іх нішчу, а яны ж мяне ўратавалі...

Было гэта вясною сорак трэцяга. Ноччу да іх прыйшлі партызаны. Узялі тры боханы хлеба, пілі самагон, частавалі бацьку і застаўлялі піць і Міколу.

— Вучыся, — працягваў яму ахмялелы камандзір групы Давыдок шклянку.

— Нядоўга табе засталося спаць у цёплай пасцелі. Будзем вяртацца — пойдзеш з намі. Нам байцы трэба. Калі да немцаў надумаеш, скажы — прыйдзем і застрэлім.

— Што вы гаворыце, камандзір. Які з яго баец — яшчэ саплівы, — захваляваўся тады Міколаў бацька.

— Ну хай пагадуецца, падрасце, — смяяўся камандзір, — але не раю яму немцам тут на вочы трапіць — палічаць партызанам і застрэляць. Так што выбірай, як лепш.

— Давыдок як у ваду глядзеў, — успомніў Варона. — Раніцой яны прыйшлі па слядах, які на расістай траве пакінулі партызаны. Чацвёра. У чорных касках, з бляхамі на грудзях. Маці печ паліла, бацька абуваў лапці. Завязаў валокі, прыўзняўся з услончыка і збялеў:

"Немцы! Сынок, хутчэй на гарышча і ў скрыню з кастрою хавайся". Я паспеў туды і схаваўся за тую скрыню — за ёю не ўбачаць.

— Во гіне партызанэн? — пачуўся ў хаце крык і бахнуў стрэл. Я адчыніў скрыню, а кастры там няма — забыў бацька, што восенню яе ў прызбу засыпаў. І тут я ўспомніў, як дзед яшчэ пры паляках адхінаў некалькі непрыбітых смалістых дошчак, каб неўпрыкмет залезці на самую высокую з бяроз. Летнім днём сядзеў гадзінамі і ўсё глядзеў, што там за мяжою ў саветаў. Вечарам казаў бацьку: "Там трактары з чырвонымі сцягамі жняяркі цягаюць, спевы чуваць. Во дзе, сынку, жыццё..."

Мікола ўспомніў, як смяяўся бацька над ім — бо ведаў, які там у саветаў рай.

Тыя непрыбітыя гонты ён адразу ўбачыў, рассунуў іх і на бярозу ўсхапіўся. Сядзіць і лпача — у хаце енк і зноў стрэлы. Немцы тады перавярнулі ўсё, а яго не ўбачылі — галіны былі густыя. Зверху ён бачыў, як гналі маці і бацьку ў Заслаўе. Адтуль не вярнуліся яны — памерлі недзе ў Польшчы, у канцлагеры. У той дзень ён апынуўся у Давыдка...

Варона перабраў у памяці сваё жыццё — як пасля партызанкі ваяваў у Прусіі, потым вярнуўся ў апусцелую хату, затым ажаніўся толькі праз два гады, бо спадзяваўся, што Яня жывая. Даведаўся ўжо пры Хрушчове, што памерла яна ў лагеры, куды яе саслалі з бацькамі.

Мікола ўспомніў таксама, што вяселле правіў у жніво, на двары пад бярозамі.

Доўгая ноч мінула. Варона марудзіў уставаць. Перадуманае цяжкім каменем ціснула ў грудзях. Ён адчуваў сябе вінаватым з-за таго, што пагадзіўся прадаць дрэвы. Снедаў, а ў галаве думкі былі толькі пра іх. Затым апрануўся і выйшаў на вуліцу. Глянуў на бярозы і здрыгануўся — усе іх галіны апусціліся долу. З іх падалі адна за другой буйныя кроплі. Дрэвы нібы плакалі.

(Працяг на стар. 15)

## "Біяграфія" Алеся Пушкіна



Паглядзець на Пушкіна віцябляне прыйшлі ў эстэтычны цэнтр "Маладзік", чатыры залы якога заняла персанальная выстава мастака пад назвай "Біяграфія". Пра сваё жыццё Алесь Пушкін расказаў фотаздымкамі, малюнкамі, жывапіснымі палотнамі.



*На здымках: мастак Алесь Пушкін. Знаёмства з экспазіцыяй выставы.*
*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## "Тэатральная творчасць", N 1

Змешчаны п'есы Г. Аўласенкі "Здарэнне ў лесе" і С. Кавалёва "Чарнакніжнік. Цмок і іншыя" (па матывах твораў Я. Баршчэўскага).

"Урокі серыялаў... сцэнічных?" — публіцыстычны роздум Я. Міклашэўскага.

"Сімволіка-алегарычнае ўспрыманне свету ў драматургіі Л. Андрэева, Я. Купалы, А. Дударава" — тэма артыкула Т. Аўдонінай "Разарваць кола жалезнага прадвызначэння".

Прапануюцца тэксты дакладаў Т. Гаробчанкі "Коласаўская школа: станаўленне і развіццё" і Р. Смольскага "Беларускае акцёрскае мастацтва, або Як нам адбудаваць свой тэатр", што прагучалі ў Віцебску на міжнароднай навукова-творчай канферэнцыі на тэму "Беларускае акцёрскае мастацтва: шляхі станаўлення і развіцця ў кантэксце еўрапейскіх сцэнічных культур".

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваюцца аўтабіяграфіі вядомых артыстаў Л. Александроўскай і У. Уладамірскага. Іх прапануе Р. Платонаў. Апублікаваны артыкул М. Бяспалай "Пра новыя факты з біяграфіі Уладзіслава Галубка".

Ф. Палачанін знаёміць з докшыцкімі самадзейнымі тэатраламі — "Пра тэатр і пра сябе". Часопіс пачынае друкаваць успаміны народнай артысткі Рэспублікі Беларусь Н. Карнеевай "Жыццё актрысы".

Расказваецца пра юбілейны вечар М. Яроменкі ("Талент не старэе"), пра справы студэнтаў універсітэта культуры ("...І паэзіі ўзнёслы дух"). Прыводзяцца змены, што адбыліся ў тэатральных калектывах на пачатак чарговага тэатральнага сезона.

Апублікаваны гумарэскі І. Стадольніка "І дзед, і не дзед", У. Правасуда "Усё наперадзе", артыкул Л. Лявоновай "Тэатр жывапісу Яна Кузміцкага", інтэрв'ю з генеральным дырэктарам кампаніі "Дыфор" А. Хомічам, якая некалькі гадоў аказвае "ТТ" фінансавую дапамогу — "Здаровы дух — у здаровым целе".

Ёсць падборкі "У друку", "Хроніка", "Летапіс".

ІМПРЭЗЫ

# Марынка з Марыінкай, а Марыся з "Мур-Ля"

### ЛЯ-МУР ФАНТАЗІІ Ў ГОНАР IX МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ СУЧАСНАЙ ХАРЭАГРАФІІ Ў ВІЦЕБСКУ

Што НІ СЛОВА ў гэтай назве, дык усё з закавыкай. Без тлумачэнняў і не разбярэшся. Тады, можа, з тлумачэнняў і пачнём?

Па-першае, М А Р Ы Н К А.

Не, гэта не назва першай беларускай дзіцячай оперы — "Марынка" Р. Пуксты. Гэта імя жанчыны, якая стаічна, яшчэ з гадоў "застою", стаяла ля вытокаў фестывальнага руху ў Віцебску. Дзесяцігоддзе таму яна не прыдумала нічога больш патрыятычнага, чым фестываль брэйк-данса — з яго і пачынаўся фестываль сучаснай харэаграфіі, які дарос да статуса міжнароднага.

Дарэчы, наконт статуса маркуйце самі: на ўдзел у конкурсе паступіла 150 заявак. Відэаматэрыялы даслалі 80 калектываў, з якіх былі адабраны 22. Удзельнічалі ж у конкурсе 19 калектываў з сямі краін: Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Эстоніі, Малдовы, Кітая. Дадайце сюды фестывальную праграму, прыезд французскай танцоўшчыцы Паскалін Вер'е, удзел у рабоце журы (на чале з маэстра В. Елізар'евым), прадстаўнікоў Францыі, Кітая, Галандыі, Японіі — і вам будзе зразумелы размах імпрэзы.

Самае ж цікавае, што без Марыны Рамаоўскай усё гэта проста не адбылося б. Не верыце? Дык праверце: IX фестываль быў перанесены з 1995 г. на снежань 1996 г. — маўляў, цяжка з фінансамі. Напраўду ўсё было інакш: Марына Генадзьеўна нарадзіла маленькага Кліма, і старэйшае 9-гадовае "дзіця", якое завецца фестывалем, мусіла адступіць на другі план.

Але ж калі працягнуць параўнанне фестываляў з дзецьмі, дык Марына Раманоўская даўно можа лічыцца шматдзетнай маці: ідэй ёй не пазычаць — і яна ўвасабляе іх то ў знакаміты фестываль гітарнай музыкі, то ў конкурс мадэльераў, прыўносячы ў кожную імпрэзу няўлоўны водар жаночага шарму, мацярынскай цеплыні і па-дзіцячы гарэзлівай усмешкі.

Шарм, цеплыня і ўсмешка ўтвараюць аўру і харэаграфічнага фестывалю, падчас якога на месцы віцебскага Палаца культуры з'яўляецца сапраўдная

М А Р Ы І Н К А.

Параўнанне фестывалю са знакамітым пецярбургскім Марыінскім тэатрам — зразумела ж, перабольшанне. Але так і хочацца назваць фэст нейкім ласкавым жаночым імем — за саму атмасферу, што пануе на ім. Кожны калектыў, што прыязджае ў Віцебск, атрымлівае сваю ўласную "фестывальную маму" — куратара, да якога можна звярнуцца з любой праблемай. Уласныя традыцыі мае і сама імпрэза. Так, напрыклад, у ролі "галоўнага цырымоніймайстра" (вядучага канцэртаў) стала выступае Юрый Траян. Цяпер да яго далучыўся муж і намеснік М. Раманоўскай Эдуард Чарніўчан, які надзвычай галантна і інтэлігентна вёў закрытыя конкурсныя прагляды. Пры гэтым гала-канцэртамі па-ранейшаму "дырыжыраваў" Ю. Траян. І можна колькі заўгодна спрачацца наконт схільнасці легендарнага саліста балета ДАВТа да гутаркі з глядзельнай залай — адна яго новая постаць ужо зрабілася сімвалам: не толькі балетнага мастацтва, а наогул тэатральнага паветра, той адданасці Тэатру, якая не дазваляе тэатр пакінуць, а толькі — памерці ў ім.

"Марынчына Марыінка" мае абрысы тэатра яшчэ і таму, што збірае штогод больш-менш трывалую "трупу" сталых удзельнікаў сяброў, якія сочаць за творчасцю калег не толькі прыдзірліва, але і добразычліва. І гэта становіцца адной з фестывальных дылем: правесці мяжу паміж уласна фестывальнай праграмай — і конкурснай.

Сёння найбольшую частку фестывальнага бюджэту складае менавіта прызавы фонд — 18 тысяч долараў. А вось на ганарары грошай не стае. Таму фестываль не мае фінансавай магчымасці запрашаць калектывы проста "ў госці", ён запрашае — на конкурс. І тут кожны мяркуе, ці трэба рызыкаваць. Станеш лаўрэатам — усе выдаткі акупяцца. А як раптам не? Тады, акрамя ўступнага ўзносу, давядзецца самому аплачваць і дарогу, і гасцініцу.

Адсюль і пярэстасць конкурсу, нягледзячы на ўсе папярэднія адборы. І немагчымасць ацэньваць конкурсныя работы паводле аднаго крытэрыю: нехта паказвае спектаклі, зробленыя "на публіку", нехта — мініяцюры, пастаўленыя спецыяльна дзеля конкурсу, а нехта — свае першыя няўпэўненыя крокі. Дый журы (калі меркаваць не толькі па ацэнках, але і па прэс-канферэнцыі), ніяк не вырашыць, чаму аддаваць перавагу: ці ўласна харэаграфічнаму пошуку, ці яго ўдаламу выканаўчаму ўвасабленню.



Вось і ўзнікаюць нонсэнсы з адсутнасцю сэнсу — накшталт "дружбы народаў", калі ў намінацыі "харэаграфічная мініяцюра" ўсе тры прэміі "паплылі" ў Кітай. Не долараў шкада (хаця, што ні кажыце, 9 тысяч!) — за мастацтва крыўдна. Бо лаўрамі была адзначана цудоўная пластыка артыстаў, сам антураж нумароў (тыя ж блёсткі, што шчодра раскідваліся па сцэне), а не фантазія харэографаў.

Усё наадварот было ва ўдзельнікаў з блізкага замежжа: здаецца, і ідэя ёсць неблагая, і палёт думкі запланаваны — ды перашкаджае непрафесіяналізм увасаблення. Ажно сэрца шчымела, калі ў чарговачорным натоўпе на сцэну выходзіла чарговая босая, чорнасукенціста-нязграбная

М А Р Ы С Я.

Ізноў жаночае імя? Гэта таму, што фестываль увогуле прадэманстраваў пэўны крызіс мужчынскага танца на тэрыторыі, яшчэ нядаўна падуладнай выключна сацрэалізму. Гэта вам не жарцікі: на ўвесь першы конкурсны блок прыпадаў адзіны мужчына — гарадзенскі харэограф Д. Куракулаў, дый той танцаваў, з галавой схаваўшыся ў чорным "мяшэчку". Часцей за ўсё (асабліва ў першы дзень конкурсу) па сцэне мітусіліся пакутныя жаночыя постаці. І гэтая шчымлівая неабароненасць "жаночага твару", гэтая схільнасць да "матрыярхату" ў такой "дуэтнай" галіне мастацтва — першая прыкмета аматарскага падыходу. Адлюстраванне становішча, калі мадэрн-харэаграфія не столькі робіцца прадметам прафесійнай зацікаўленасці, колькі скарыстоўваецца ў якасці "адтуліны для душы". Ці становіцца праявай амбіцый — у каго як. І толькі ў рэдкім выпадку — сапраўднай праявай пластычнага бачання свету.

Шчыра кажучы, супярэчнасці паміж мадэрнам і прафесіяналізмам — рэч натуральная. Тыя ж французскія работы, якія дэманстравала Паскалін Верн'е (у тым ліку ў відэазапісе), разлічаныя на ўвасабленне іх кожным хаця б крыху пластычным чалавекам. За мяжой гэта рыса мадэрну спрыяе яго дэмакратызму. А ў нас?

На тэрыторыі СНД мяжа паміж басякамі-басаножкамі і пунктуальна-пунтуальнымі "профі" ўспрымаецца як "супярэчнасць ў законе". Мадэрн ужо не забаронены, як раней, але кінуты на самавыжыванне. Па-першае, ён не мае дзяржаўнай падтрымкі. Калі класічны балет "прапісаны" ў Вялікіх тэатрах рэспублік, дык студыі мадэрну, нібы тыя "бомжи-бамжарики", туляцца хто дзе, на самадзейных асновах, без фінансавай дапамогі. Нават прызнаныя калектывы, як, напрыклад, й "Правінцыйныя танцы" з Екацярынбурга, існуюць практычна на тыя грошы, што зарабілі сваімі выступленнямі ці перамогай на конкурсах.



Дый гэта не ўсё: акрамя даху над галавой і акрайца хлеба, таленту трэба яшчэ культурная прастора, дзе б чэрпала натхненне яго Муза. Трэба магчымасць знаёміцца з дасягненнямі калег, якія робяць надвор'е на харэаграфічным Алімпе. Патрэбны, нарэшце, адпаведны ўзровень артыстаў, якія маглі б рэалізаваць любыя мроі харэографа. Але ж іх у нас спецыяльна не рыхтуюць: калі паміж класічным балетам і прафесіяналізмам пастаўлены ўпэўнены знак роўнасці, дык не дзіва, што сістэма падрыхтоўкі творчай моладзі амаль не выходзіць за межы XIX стагоддзя.

У гэтых умовах прафесіянал так і застаецца ў коле сваёй "класічнай" прафесіі, якая гарантуе яму хаця б стабільны мінімум. А нешматлікія "мадэрністы" — і тыя перастаюць "мадэляваць", пачынаючы "мадуляваць" у жанр вар'етэ, бо есці хочацца нават хударлявым "даўганожкам". Так што ацэньваючы саму сітуацыю з мадэрнам, можна азначыць яе адным словам —

МУР-ЛЯ.

Па-першае, так называлася адна з мініяцюр, што былі паказаны ў конкурснай праграме фестывалю. Па-другое, слова гэта сугучнае іншаму, якім абывацелі часта называюць увесь мадэрн разам. Па-трэ-цяе,- "мур-ля" сімвалізуе ўвогуле нашы адносіны да мадэрну: ён нам гэтак ласкава "мур-р-р", "мур-р-р" голасам бяздомнага кацяняці, а мы яму — "не трэба ля-ля!". Маўляў, нам самім кілбасы не хапае. А павінна ж быць зусім наадварот! Дык вось, калі гэта слова ўспрыняць крыху "наадварот", дык з "мур-ля" атрымаецца — "лямур": менавіта тое, чаго і чакае ад нас наш "беспародны" мадэрн.

Хаця чаму ж "беспародны"? Фестываль даваў шмат бліскучых прыкладаў, як фармуецца ўласнае аблічча і ўвогуле нацыянальная школа ў нашай мадэрн-харэаграфіі. Усе калектывы можна было б падзяліць на тры групы, якія дэманстравалі гэты працэс паступова. Першая ступень — гэта разуменне асаблівасцей мадэрну і намаганне ісці "правільным шляхам" (менавіта намаганне, бо сапраўдныя крокі немажлівыя без прафесійнага падыходу). Другая — імкненне атрымаць гэты прафесіяналізм за кошт запрашэння ў калектыў замежных харэографаў. І, нарэшце, вяршыня піраміды — стварэнне кампазіцый, у якіх дакладна відаць нацыянальная прырода мастацтва.

"Восем рускіх песень" Яўгена Панфілава (г. Перм, 3-я прэмія ў намінацыі "аднаактовы балет") зачаравалі менавіта аўтарскім падыходам да фальклору. Другі яго балет "Барабаны для сусвету, а скрыпка для самоты", нягледзячы на пэўную рыхласць формы, таксама быў пранікнуты менавіта яўрэйскім светаўспрыманнем.

Яшчэ адзін лідэр фестывалю — ансамбль "Правінцыйныя танцы" з Екацерынбурга, які атрымаў 2-ю прэмію за аднаактовы балет "Не атрымалася" Тацццяны Багановай. Гэта высокапрафесійная кампазіцыя ўспрымалася як найцікавы аўтарскі пераклад з нямецкай: пэўны час з калектывам працавала харэограф з Германіі, таму эстэтычны і лексічны ўплыў тамтэйшай культуры стаўся такім блізкім нашым далёка не правінцыйным "правінцыялам". Затое другая іх работа — мініяцюра "Дэжа вю" Наталлі Шыракавай — прывабіла менавіта сінтэзам з бытавой лексікай знаёмых нам "вечарынак".

Даволі спрэчную канцэпцыю прапанаваў "Кінэтычны тэатр" Аляксандра Пепяляева (г. Масква, 3-я прэмія ў намінацыі "аднаактовы балет"). Сінтэз харэаграфіі са словам увогуле быў уласцівы рускай традыцыі: у XVIII стагоддзі нават жанр такі існаваў — меладрама, ім называлі ў той час скокі з рэчытацыяй (адбіткі гэтага напрамку меламаны памятаюць па апошнім акце оперы "Русалка" А. Даргамыжскага, калі маленькая русалачка не толькі танцуе, але і звяртаецца да Князя з прамовамі). Але "пепяляеўцы" не тлумачаць танец словамі, хутчэй наадварот. У балетах "З чацвярга на пятніцу" і "Спіс ілюзій" словы і танец існавалі, нібы ў розных вымярэннях. І часам слова станавілася галоўным — асабліва ў другім балеце, калі ўжо амаль на другой фразе быў відавочны і фінал, і галоўная ідэя, якая магла б існаваць і без харэаграфіі, нічога пры гэтым не страціўшы.

А што ж беларускія калектывы на гэтым фоне? Спецыяльнай прэміяй "Перспектыва" была адзначана мініяцюра "Парафраз" мадэрн-балета "Галерэя" пад кіраўніцтвам Аляксандра Цебянькова. Што ж, увага і ветлівасць журы ў адносінах да гаспадароў фестывалю самі па сабе прыемныя. Ды толькі ўсё гэта ўжо было. Тры гады таму ў другі тур такога ж конкурсу ўжо выходзілі гарадзенскі калектыў, які на той час яшчэ не падзяліўся на два: паміж А. Цебяньковым і Д. Куракулавым. Колькі ж можна жыць перспектывамі?





Нагадаю: два гады таму ў Віцебску спаборнічалі выключна беларусы — на фоне багатай фестывальнай праграмы. Што ж сталася з лаўрэатамі?

Вялікія надзеі тады ўскладаліся на Ларысу Сімаковіч з дзіцячым фольк-тэатрам "Госьціца". Але ж яна — прафесійны хормайстар і таленавіты кампазітар. Дый у самога калектыву крыху іншыя задачы, каб вырашаць будучае беларускай харэаграфіі.

Па мінулых выступленнях вылучыўся Дзмітрый Куракулаў з групай "ТАД". Гэты калектыў быў далучаны да Гродзенскай філармоніі і, акрамя невялічкай зарплаты, атрымаў вялікія "гастрольныя" планы у вёсках, дзіцячых садках і школах вобласці. Кіраўніка запрасілі выкладчыкам у Гродзенскае культасветвучылішча. Усё гэта добра, але таленту, акрамя акрайца хлеба і даху над галавой (памятаеце?), трэба яшчэ культурная прастора і, як мінімум, здольныя выканаўцы. Так што Д. Куракула са сваімі навучэнцамі "культасвета" застаецца пакуль зоркай гарадзенскага маштабу — нават не маючы выхаду ў сталіцу, якое там — за мяжу. А шкада, бо гэты харэограф сапраўды перспектыўны.

Вялікі прагрэс у гомельскага балета "Квадра" пад кіраўніцтвам Іны Асламавай, але і ў яго ўсё тыя ж праблемы.

Так і будзем жыць далей? З праблемамі і перспектывай? Між іншым, прыбалтыйцы летась знайшлі 9 тысяч долараў на стварэнне сучасных нацыянальных кампазіцый. А на Беларусі? Так і застанёмся на самадзейна-грамадскіх асновах? У межах "народна-аматарскай" харэаграфіі?

Між іншым, хаўрус крытыкаў на Віцебскім фестывалі носіць назву "Творчая лабараторыя". Дык, можа, менавіта "лабараторыі" нам не хапае для харэаграфічных эксперыментаў? Два гады таму марылі пра сцэну Тэатра музкамедыі, дзе б "Мінскбалет" ажыццявіў задумы Юліяй Чурко "Кругабег", паводле беларускіх балад. І што ж: "Кругабег" ідзе на сцэне Акадэмічнага тэатра Беларусі, а "Мінск-балет" шчасліва возіць за мяжу класіку. У Акадэмічным "Дон-Кіхот" — і ў музкамедыі"Дон-Кіхот", толькі скарочаны. У Акадэмічным "Кармэн-сюіта" — і ў музкамедыі, толькі ў іншай пастаноўцы. У Акадэмічным



"Шчаўкунок" — і ў музкамедыі: толькі ў іншай і пад "кодавай" назвай "Зачараваны прынц". Што далей?

Не, я не супраць класікі! Чым яе больш, да таго ж у розных інтэрпрэтацыях, тым лепей. Вось толькі... Кампазітарам Яўгенам Паплаўскім даўно напісаны пластычныя сцэны, якія чакаюць не толькі музычнага ўвасаблення, але і неардынарнага харэаграфічнага падыходу. Наталля Голубева, якая горача ўзялася за стварэнне музыкі сучаснага балета, кінула гэтую справу, о зразумела: нікому непатрэбны занятак.

Так ужо і нікому? Пытанне пакуль без адказу. Замест адказу мы ўслаўляем перамогу балета "Страсці" А. Мдзівані, за харэаграфію якога В. Елізар'еў атрымаў міжнародную ўзнагароду. І не задумваемся пра тое, хто ж крочыць за маэстра. А сапраўды, ці крочыць хто? Няўжо адна Марынка з уласнай "Марыінкай", якая стаічна, яшчэ з гадоў застою, перайначвае таемнае "мур-ля" ў французскае "ля-мур"?..

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

*Імгненні фестывалю — у фотааб'ектыве Аляксея МАЦЮША.*

# "Сінія перцы" выспяваюць зімой

Мінскую публіку ўжо цяжка нечым здзівіць. Альбо тое НЕШТА павінна быць ТАКОЕ... Кшталту міні-фестывалю "Сіні перац". Арганізатарам яе традыцыйна выступае мінскі гурт "Князь Мышкін". Сёлета перцу ўсыпалі ў чацвёрты раз. І адбывалася гэта ў зале Палаца шахмат і шашак — не шмат часу таму тут асталяваўся рок-н-рольны REEF-клуб.

Што такое "Сіні перац"? Назва, як давёў Леанід Нарушэвіч ("Князь Мышкін"), "бесталковая, затое — зімовая". Нічога не заставалася, як пагадзіцца з такім меркаваннем. А што да канцэпцыі... Як калісьці патлумачыў мне адзін з удзельнікаў гурта, выдатны піяніст Юры Васільеў, "Там, дзе выступае "Князь Мышкін", усё можна". У "Сініх перцах" не дзіва ўбачыць, як вядомы прадзюсер выступае ў амплуа паэта, не менш вядомы журналіст спявае "Summertime" (у беларускім перакладзе!), а вядучы праграм радыё Бі-Эй ператвараецца ў "культавую зорку", і ягоная песенька пра "дзяўчынку маёй мары" мае ўсе шанцы стаць сапраўды народнай.

Пераўвасабленні і паў-ананімнасць (вакол знаёмыя ўсе твары...) — адметная рыса гэтага міні-фэста. Другая адметнасць — непрадказальнасць. Звычайна ў фестывалях вызначаецца пэўны кірунак: джаз, народная музыка, рок, поп-музыка... Публіка настройваецца на гэты лад, слухае, слухае, а потым — а/ таньчыць, б/ засынае, в/ разыходзіцца, недачакаўшыся канца праграмы. А што адбываецца ў "Сінім перцы"? Пасля хард-фолькавага "Гая" тут выступае блюзавы бард Саша Памідораў, пасля панкаўскай "Пані Хіды" — фольк-гурт "Ліцвіны", ну а "завяршае ўсю гэтую агіднасць" "Князь Мышкін" — гурт "эксперыментальнага джаза", ці "інтуітыўнай музыкі", як самі яны азначаюць свой стыль. І галоўнае — слухачы ўдзячна вітаюць кожнага выканаўцу.

"Ліцвіны" — пастаянныя ўдзельнікі "Сініх перцаў" і адчуваюць сябе тут як дома. "Вас не засмучае, што ў праграме гучыць зусім розная музыка, часам вельмі далёкая ад той, якую вы ствараеце?" — запыталася я ў вакалістак гурта Алены Шэўчык і Наталлі Захаранкі. Адказы былі такія. Алена: "Абсалютна не засмучае. Гэта публіка добра адчувае нас, а мы адчуваем яе. А тое, што суседнічаюць розныя кірункі, — гэта нават цікавей". Наталля: "Тут успрымаюць проста добрую музыку — без абмежаванняў па стылях і кірунках, і калі ты варты таго, каб цябе слухалі, — цябе будуць слухаць. Нават рокеры — слухаюць "Ліцвінаў"!"

Самай яркай падзеяй фестывалю сталася выступленне аршанскай "Пані Хіды". Уражанне, мабыць, і суб'ектыўнае, аднак паводле канонаў жанру патрабуецца ставіць нейкія балы, вызначаць месцы, "раздаваць сланоў". Таму самага вялікага "слана" — пардон, "перца", я прысудзіла б гэтым музыкантам. Уявіце сабе анты-"Мечтать" ці анты-"Браво": настальгія па шасцідзесятых, памножаная на панк, плюс здзеклівыя цытаткі з "Макарэны". А ўсё разам — зусім не здзекліва, а наадварот, весела і душэўна. Так што, паважаныя прадзюсеры-прамоўтэры, звярніце ўвагу на "Пані Хіду": з гэтай маладзіцай варта мець справы.

Увогуле ж на "Сініх перцах" не падзяляюць удзельнікаў на "першых " і "апошніх". Гэта самы вясёлы і "прыперчаны" фестываль з усіх магчымых. Але здараецца ён, як і дзень нараджэння, толькі "раз на год". Вось і чакайце наступнай зімы і наступнага "Перца". Поспехаў вам, сп. "Князь Мышкін"!

**Ірына БАРАВАЯ**





## *Не пагарджаў беларускай мовай*

**285 гадоў назад, 19 лютага 1712 года, у Дзятлаве нарадзіўся польскі і беларускі пісьменнік Удальрык (Ульрык) Кшыштаф Радзівіл (памёр у 1763 годзе). З 1734 года — канюшы, з 1762-га — пісар Вялікага княства Літоўскага. Аўтар кніг "Апісанне клопатаў людзей усіх саслоўяў" (1741), "Маральныя элегіі" (1752), "Агульная гісторыя" (1752). У рукапісе засталася яго праца "Свецкая крытыка, або Сатыра". Займаўся таксама і перакладамі на польскую мову твораў Сафокла, П. Карнеля, Ж. Расіна. А яшчэ спрабаваў увесці ў спектаклі, што ставіліся ў прыдворных тэатрах, беларускую мову. У прыватнасці, па-беларуску гаварыў адзін з герояў пераробкі Радзівілам твора Э. Бурселя "Камедыя Эзопа".**

## *Аўтар адзінай кнігі*

**А называецца яна "На бераг" і з'явілася яшчэ ў 1932 годзе, калі маладому паэту Кліму Грыневічу споўнілася толькі 20 гадоў (нарадзіўся 18 лютага 1912 года ў вёсцы Шасцёраўка цяперашняга Клімавіцкага раёна). Працаваў на будаўніцтве чыгункі Асіповічы—Магілёў—Рослаў, вучыўся ў Рагачоўскім педагагічным тэхнікуме, працаваў на будоўлі, карэктарам у друкарні, у рэдакцыях газет, сакратаром Рэспубліканскага ЦК прафсаюзаў работнікаў сельскай гаспадаркі. На літаратурна-творчым аддзяленні Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута К. Грыневічу доўга вучыцца не давялося — у 1933 годзе, калі быў студэнтам першага курса, яго рэпрэсіравалі і выслалі ў Чымкенцкую вобласць, дзе ў горадзе Сарыагач настаўнічаў, пасля быў інспектарам раёна, затым служыў у арміі. З 1937 года К. Грыневіч працаваў настаўнікам у школах горада Балагое Калінінскай вобласці і адначасова вучыўся на літаратурным факультэце Ленінградскага педагагічнага інстытута імя А. Герцэна. Памёр 3 сакавіка 1941 года. Дэбютаваў у 1929 годзе ў газеце "Піянер Беларусі", друкаваўся таксама ў "Чырвонай змене". Цяпер творы К. Грыневіча можна сустрэць толькі ў калектыўных зборніках, ды заказаць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі яго першую і адзіную кнігу.**

## *"Роднае слова", N 1*

**З. Мамачкін выступае з артыкулам "Драматургія Васіля Шашалевіча".**

**Штрыхі да творчага партрэта Г. Марчука ("Пісьменнік, якога адкрыў тэатр") напісала Г. Дашкевіч. Над творамі В. Гігевіча разважае Г. Тычка — "У ценю крыжа адзіноты". "Слова-вобраз "полымя" ў мастацкім радку Ф. Янкоўскага" — тэма артыкула Н. Лобань "Ты свяціла мне, полымя..." "Светаўспрыманне старажытных беларусаў" узнаўляе Л. Карабельнікава.**

**Рубрыку "З гісторыі сусветнай і айчыннай культуры" працягвае артыкул Т. Шамякінай "Культура Месапатаміі". Вершы Р. Баравіковай і Г. Бураўкіна аб'яднаны ў раздзеле "Вечная мелодыя жыцця".**

**У "Анталогіі беларускага раманса" В. Скорабагатаў знаёміць з С. Манюшкам і У. Сыракомлем ("...Я лірнік вясковы"). Вобраз зімы ў творчасці беларускіх мастакоў разглядае А. Шапашнікава ("У белай форме самы чысты змест..."), Г. Каржанеўская ("Сабранае па штрышку") дзеліцца ўражаннямі ад выстаўкі М. Раманюка. Пра кампазітара Л. Захлеўнага ("Мелодыя ў сэрцы гучыць...") расказвае Н. Бунцэвіч. Змешчаны тэксты і ноты некаторых песень на вершы беларускіх паэтаў.**

УГОДКІ

# Спадарожніца Купалы

***Напрыканцы мінулага года споўнілася 105 гадоў з дня народзін заслужанага дзеяча культуры Беларусі, асветніцы, руплівай дзіцячай пісьменніцы, самаахвярнай і вернай паплечніцы, саратніцы і дарадцы Янкі Купалы, першага дырэктара музея Песняра Уладзіславы Францаўны ЛУЦЭВІЧ, імя якой упісана залатымі літарамі ў гісторыю нашай нацыянальнай культуры і літаратуры.***

***У гонар яе ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы прайшла святочная вечарына.***

Жыццёвы і творчы шлях Уладзіславы Францаўны быў няпросты, але, без перабольшання, шчаслівы. Прыгадаем яго... 1912 год. Вільня. Тагачасны цэнтр беларускай культуры. Сюды пасля заканчэння настаўніцкіх курсаў у Варшаве прыязджае маладая настаўніца Уладзіслава Станкевіч з мэтай працаваць на карысць радзімы. Яна распачынае самаадданую працу ў дзіцячых прытулках, дзе выхоўваліся абяздоленыя дзеці-сіроты, а пазней —дзеці сем'яў бежанцаў. Па тых часах царскімі ўладамі забаранялася весці любую асветніцкую працу, тым больш на беларускай мове. Забаранялася вучыць дзетак пісаць і чытаць па-беларуску. Але ж ніхто не мог забараніць думаць пра жыццё роднага слова сярод насельніцтва. І таму апантаная ідэяй нацыянальнага адраджэння Станкевічанка вучыць дзетак роднай мове, развучвае з імі беларускія вершы, песні, пацешкі, загадкі, легенды, паданні, чытае ім народныя казкі. Гэты накірунак яе клопатаў меў вялікую перспектыўную будучыню.

Вера ў нацыянальна-вызваленчую ідэю і незалежнасць Беларусі спрыялі таму, што Станкевічанка ўключаецца ў грамадскую дзейнасць. На пачатку XX стагоддзя вакол грамадска-палітычнага і культурна-асветнага, легальнага штотыднёвіка "Наша Ніва" гуртавалася перадавая беларуская інтэлігенцыя, што несла і распаўсюджвала ў самыя аддаленыя куточкі Беларусі роднае слова, тым самым мацуючы падмурак будучай беларускай дзяржаўнасці. Станкевічанка далучаецца да нашаніўцаў, сама піша ў газету, друкуе ў ёй шэраг вершаў пад псеўданімам "Владычанка" і "В. Станкевічанка". Па неаднаразовых даручэннях Цёткі выконвае адказныя заданні — распаўсюджвае кнігі, календары, паштоўкі, лістоўкі, беларускія газеты на роднай мове. Яна ўспамінала, што часта выязджала ў вандроўкі разам з Янкам Купалам з мэтай прапаганды ўсяго, што мела адносіны да Беларусі.

Запалі ў яе душу паездкі ў Ашмянскі павет і на Лідчыну, бо іменна на той бурлівы, неспакойны час прыпадае іх асабістае сяброўства.

81 год таму, 23 студзеня 1916 года, у Маскве, у касцёле Святых Пятра і Паўла павянчаліся беларуская настаўніца Уладзіслава Станкевіч і беларускі паэт Янка Купала — Іван Луцэвіч. З гэтага часу сям'я Луцэвічаў жыве ў Маскве, Полацку, Смаленску. У 1919 годзе яны вяртаюцца ў Мінск. Уладзіслава Францаўна бесперапынна да 1941 года працуе ў розных дзіцячых установах. Маладым парасткам яна прысвяціла ўсё сваё жыццё. Цікава і хораша апрацоўвала шматлікія беларускія песні і казкі, нястомна прывівала дзеткам любоў і пашану да беларускай мовы. У асобе Уладзіславы Францаўны Луцэвіч мы маем прыклад найярчэйшай асветніцкай педагагічнай дзейнасці.

Жыла сям'я Луцэвічаў у доме, што знаходзіўся на гэтым самым месцы, дзе зараз стаіць Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Дом Паэта, як пісаў сусветна вядомы вучоны Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, быў светлым геапалітычным месцам, куды сцякалася шмат люду. Шчырую гасціннасць гаспадароў адчулі ў той час вельмі многія: вядомыя і яшчэ зусім невядомыя дзеячы культуры, навукі, літаратуры, мастацтва, вучоныя, студэнты, рабочыя. Літаратурны салон дома Купалы пакінуў аб сабе добрую памяць.

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны дом згарэў, загінула ў полымі унікальная бібліятэка і найкаштоўнейшы архіў Янкі Купалы. Сям'я пакінула Мінск, выехала на дачу ў Ляўкі, затым у Маскву, праз пэўны час у пасёлак Пячышчы, што пад Казанню, на Волзе.

Набліжалася 60-годдзе народзін Песняра. На святкаванне свайго юбілею Янка Купала быў выкліканы ў Маскву ўрадавай тэлеграмай. 28 чэрвеня 1942 года ў гасцініцы "Масква" паэт трагічна загінуў. Амаль праз 2 гады, 25 мая 1944 года, у Гомелі за нумарам 268 выйшла пастанова аб стварэнні Літаратурнага музея Янкі Купалы. Сакратаром па літаратурнай спадчыне Песняра была прызначана ўдава паэта.

Адразу ж пачалася карпатлівая, усебаковая праца па ўвекавечанні памяці Янкі Купалы. Рупліва збіраліся кожны ліст, кожны радок. Паперка да паперкі, фотаздымак да фотаздымка, кніга да кнігі, экспанат да экспаната — вось шлях нястомнай збіральніцы Купалавых скарбаў. Яго імя — як Замова, яго дзейнасць — як лёсапрызначэнне былі для яе пуцявінай, нязгаснай зоркай, тым, дзеля чаго Уладзіслава Францаўна жыла. І дзякуючы яе плёну, пошукам і намаганням 20 верасня 1945 года музей Купалы гасцінна расчыніў свае дзверы для наведвальнікаў. Уладзіслава Францаўна стала першым дырэктарам музея. На працягу 16 гадоў, да апошняга дня свайго жыцця яна працавала на гэтай пасадзе, даследуючы, прапагандуючы творчасць Янкі Купалы. Жонка Песняра. Купаліха — так цёпла называлі яе ў народзе.

Нястомная праца Уладзіславы Францаўны па ўвекавечанні памяці Янкі Купалы стала прыкладам для жанчын, што жылі побач з ёю. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вясёлка" Тамара Тарасава распавядала на вечарыне, што ўсім, чаго яна дасягнула ў жыцці, абавязана гэтай высакароднай жанчыне. Прадоўжылі святую справу Уладзіславы Францаўны пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Раманоўская, яе дачка Жанна Дапкюнас, якія шчыруюць на ніве купаліяны звыш 30 гадоў. Побач з Уладзіславай Францаўнай у 1945 годзе пачыналі працу першыя навукоўцы музея — пісьменнік Янка Брыль, паэт Валянцін Таўлай, настаўніца Алеся Александровіч.

Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль хораша, цёпла, шчыра, нагадаў пра тыя незабыўныя часы, калі, як сказаў Іван Антонавіч: "Мы былі не столькі навукоўцамі, колькі навучэнцамі ў гэтай выдатнай, разумнай, таленавітай, надзіва простай жанчыны". Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Янкі Купалы паэт Мікола Аўрамчык гаварыў пра тое, што яму пашчасціла ў жыцці выязджаць на шматлікія вечарыны, адкрыцці дошак разам з Уладзіславай Францаўнай. Яго, як сказаў паэт, і па сённяшні дзень здзіўляе яе нястомная цікавасць да ўсяго, што тычылася Янкі Купалы. Дацэнт БДУ Вольга Казлова і прафесар універсітэта культуры Лілія Дзямешка з гонарам гаварылі аб тым, што значыць для іх жыццёвы прыклад Уладзіславы Францаўны.

На вечарыне было прыгадана і шчырае, шматгадовае сяброўства Уладзіславы Францаўны з Канстанцыяй Буйло. Сяброўства, якое пачалося ў юнацкія гады і прайшло праз усё іх жыццё.

Працоўная дзейнасць Уладзіславы Францаўны была высока ацэнена. Яна была ўзнагароджана двума ордэнамі "Знак Пашаны", медалямі, граматамі, ёй было нададзена званне заслужанага дзеяча культуры БССР.

Хацелася б адзначыць, што ўдзельнікамі гэтай вечарыны былі не выпадковыя людзі, а зацікаўленая моладзь: студэнты філфака БДУ, падрыхтоўчае аддзяленне педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, факультэта бібліятэчна-інфармацыйнай сістэмы універсітэта культуры, старшакласнікі школ горада Барысава.

Праз усю вечарыну чырвонаю стужкаю прайшлі вершы Янкі Купалы, прысвечаныя Уладзіславе Францаўне, якія чытаў артыст Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Віктар Манаеў.

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ,**
**загадчык аддзела навуковай прапаганды Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

# "Скарбніца" — імя жаночае...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

этнаграфічныя і сцэнічныя касцюмы. Аграмадная праца — узнавіць тое, што створана народам, паўтарыць па самых драбніцах кожную дэталь, колер, сімвал. Зараз "Скарбніца" працуе над вельмі цікавай тэмай — "Этнаграфічная рэканструкцыя народнага касцюма па строях". Два гады пайшло на стварэнне жаночага этнаграфічнага касцюма Калінкавіцкага строю Гомельскай вобласці. Даводзілася майстрыхам па нітачцы разбіраць тканіну, каб зразумець і ўзнавіць знікаючую тэхналогію ткацтва. Менавіта тут, у Цэнтры, было адроджана двухасноўнае ткацтва. Праца над этнаграфічным касцюмам — толькі ручная: і ткацтва, і вышыўка. Таму і каштуе такі касцюм пад сотню мільёнаў рублёў. Вядома, звычайны пакупнік яго наўрад ці купіць, але заказы ёсць пастаянна — ад музеяў, часам — ад пасольстваў.

У касцюмы "Скарбніцы" апрануты Дзяржаўны ансамбль танца, ансамблі "Госціца", "Харошкі", "Бяседа", "Свята", "Палескія музыкі", "Сябры", "Званочкі". Гэтыя касцюмы больш стылізаваныя, у іх побач з ручным ткацтвам ужываецца фабрычная тканіна, машынная вышыўка і тасьма суседнічаюць з ручной, бо першыя, вядома ж, нашмат таннейшыя. Тым не менш, гэта сапраўды народныя касцюмы, і яны не ідуць ані ў якае параўнанне з псеўданароднымі апраткамі шматлікіх нашых груп і ансамбляў, якія прадстаўляюць нашу краіну з канцэртамі і за мяжою.

Новы накірунак дзейнасці "Скарбніцы" — распрацоўка дызайну інтэр'ераў у беларускім традыцыйным стылі. Сярод заказчыкаў — Адміністрацыя прэзідэнта, Кабінет (ці па-цяперашняму — Савет) Міністраў, гасцініцы "Арбіта", "Мінск", нават — не здзіўляйцеся! — КДБ...

Бачыла я там узоры вытканых на кроснах парцьераў, якія вісяць на вокнах і дзвярах нашых пасольстваў у Францыі, Швейцарыі, Расіі, Украіны...

Усё часцей пачалі заглядваць у "Скарбніцу" "новыя беларусы". Фірмы "Тэхінвест", "Экспафорум", "Дарбуд" просяць аформіць інтэр'еры, заказваюць абрусы, сурвэткі, ручнікі, вытканыя на кроснах. Усе вырабы непаўторныя, утрымліваюць у сабе цеплыню чалавечых рук. Нацыянальны касцюм, галаўны ўбор, распісаная алеем шкатулка, лялькі ў народных касцюмах, тканыя ўручную посцілкі, абрусы, ручнікі, званочкі з саломкі, разнастайныя пано — многія людзі пачалі разумець кошт гэтых вырабаў, захапляюцца імі і купляюць іх. Найперш, вядома, у якасці падарункаў блізкім і родным людзям, а найчасцей, бадай, замежным гасцям, якіх цяпер у нас бывае нямала. Надзвычай цікава глядзіцца адна з апошніх работ "Скарбніцы" — серыя "Архітэктурныя помнікі Беларусі", выкананая ў тэхніцы аплікацыі. Дзверы Цэнтра народных рамёстваў, ці проста "Скарбніцы" — адчынены для ўсіх.

А працуе тут усяго 80 чалавек. І зноў папрашу шаноўных чытачоў не здзіўляцца — адны жанчыны. Усе восемдзесят. Кіруе ж імі адзіны, ужо згаданы мною мужчына — Аляксандр Бондар. Вось так. Мудрэй нават, чым у той песеньцы: "Восем дзевак — адзін я...". Сярод супрацоўніц "Скарбніцы" — 8 мастачак, 2 мастачкі-мадэльеркі, астатнія тэхнолагі, вязальшчыцы, швачкі, майстрыхі па дрэве, саломцы, лазе. Усе з адпаведнай адукацыяй і падрыхтоўкай. Проста з вуліцы чалавек сюды, бадай што, не патрапіць.

Што да гэтага можна дадаць? Што працуюць адны жанчыны — дык, пэўна, іначай і быць не магло. Як-ніяк, а ў сценах (не хочацца гаварыць — у цэхах) "Скарбніцы" нараджаецца прыгажосць, альбо, як пісаў Максім Багдановіч, краса. Краса ж, не забяспечаная душэўнай цеплынёю, шчырым пачуццём і сардэчнай любоўю, не вартая, бадай, анічога. Яна і называцца не павінна гэтым чыстым і высокім словам. Ну, а не ў крыўду будзе сказана пра мужную палову чалавецтва, у слабейшай паловы сардэчная забяспечанасць мусіць жа ўсё-такі вышэйшая. І адчуванне красы, эмацыянальны водгук на яе — таксама. Не, зусім невыпадкова Цэнтр народных рамёстваў атрымаў жаночае імя — "Скарбніца"!

Ад душы хочацца пажадаць слаўным, таленавітым і мілым працаўніцам "Скарбніцы" моцнага здароўя, шчасця і ўсялякіх-усялякіх поспехаў. Няхай не стамляюцца іхнія залатыя рукі, якія вяртаюць з небыцця і даюць новае жыццё забытым, занядбаным народным скарбам і тым самым мацуюць повязь пакаленняў, без чаго ніякі народ не зрабіў бы ні кроку наперад у сваім духоўным, нацыянальна-культурным развіцці.

**Марыя МІХАЙЛАВА**

*На здымках: некалькі ўзораў таго, што прынесла добрую і заслужаную славу мінскай "Скарбніцы".*






Фотааповед

# Пад вострай брамай

Ад таго часу, калі ў Мосарскім храме стаў працаваць ксёндз Юзаф Булька, мясцовае жыццё зведала перамены ў адносінах да вечнага. Вясковыя могілкі нарэшце перасталі быць сімвалам бескультур'я. Цяпер гэта адзін з прыгажэйшых правінцыйных Некропаляў Беларусі. Перад фасадам касцёла Святой Ганны — кветкавая паляна з саджанцамі і скульптурай.

Гістарычнай падзеяй стала ў Мосары адкрыццё новазбудаванай капліцы — Божай Маці Вострабрамскай. Ёсць цяпер на Бацькаўшчыне свая Вострая Брама.

**Анатоль КЛЯШЧУК**
*Глыбоцкі раён*



*Фота аўтара (здымкі зроблены ў час набажэнства на адкрыцці капліцы).*











## Хоць і пісаў шмат



Споўнілася 85 год з дня нараджэння вядомага ў 30-я гады, але амаль забытага сёння, паэта Яўхіма Кохана (сапраўднае прозвішча Коханаў). Віной гэтага стаў няпросты жыццёвы і творчы шлях аўтара. І для таго, каб атрымаць нейкія звесткі аб ім, давялося весці дадатковы пошук, бо літаратуразнаўчыя даведнікі нічым тут дапамагчы не маглі.

Значную ж дапамогу ў гэтых пошуках мне аказалі ўспаміны Васіля Віткі (ён разам з Я. Коханам, а таксама з Хвядосам Шынклерам у 30-я гады выпускаў у Жлобіне рэгіянальную чыгуначную газету "Ударнік") і Сяргея Грахоўскага (ён з Я. Коханам жыў у 30-я гады ў Бабруйску, падтрымліваў з ім перапіску ў пасляваенны час). Апошні дапамог мне выйсці і на жонку паэта Марыю Лаўрэнцьеўну, якая жыве ў горадзе Багародзіцк Тульскай вобласці (Расія). Яна паведаміла мне шмат якія факты з жыцця свайго мужа (Я. Кохан памёр 23 лютага 1993 г.), даслала мне яго рукапісы, фотаздымкі.

Нарадзіўся Я. Кохан у 1912 годзе ў сялянскай сям'і на Случчыне. "...Каб расказаць усё перажытае ім хаця б у асноўных падзеях, — піша ў сваіх успамінах "На скрыжаванні маланак" (1972 г.) В. Вітка, — гэта была б цэлая эпапея — невыносна цяжкая, пакутная і захапляючая, як лёс многіх людзей, якім на саміх сабе прыйшлося выпрабаваць самыя крутыя і бязлітасныя павароты гісторыі". Далей В. Вітка адзначае, што жыццё паэт "спазнаў дасканала", працаваў цесляром, сталяром, начным вартаўніком, малатабойцам, пажарным, паштавіком, журналістам, архівістам, землякопам, зведаў іншыя прафесіі.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны Я. Кохан — на фронце. Ваяваў пад Харкавам, Сталінградам, на Курскай дузе. Закончыў вайну ў Сілезіі камандзірам, быў узнагароджаны многімі баявымі ордэнамі і медалямі. Пасля вайны паэт доўгі час жыў у Львове, з 1969 года і да смерці — у Багародзіцку. Шмат год ён працаваў начальнікам паштовага вагона, аб'ездзіў усе чыгуначныя лініі ад Львова да Уладзівастока.

Што тычыцца літаратурнай творчасці Я. Кохана, то гэта быў, па словах С. Грахоўскага, "здольны паэт". "Адметнасцю ў маладой беларускай паэзіі" назваў яго вершы В. Вітка. Гэты "самабытны талент" у свой час заўважыў не хто іншы, як сам Кузьма Чорны. Актыўна друкавацца Я. Кохан пачаў

яшчэ ў канцы 20-х, у 30-я гады ён ужо,

як мы адзначалі вышэй, даволі прыкметная асоба на беларускім паэтычным небасхіле. Але асобную кнігу Я. Кохан так і не сабраў і не выдаў.

Тады, у 30-я, у час жорсткіх палітычных рэпрэсій супраць нацыянальнай творчай інтэлігенцыі, малады паэт, як напісаў мне ў сваім лісце С. Грахоўскі, палічыў за лепшае, пакуль не было позна, знікнуць не толькі з літаратурнага асяроддзя, але наогул "нечакана з'ехаць у невядомасць". Даў аб сабе знаць Я. Кохан толькі ў 60-я гады. Зноў з'яўляюцца яго вершы ў "Маладосці", "Днях паэзіі", "ЛіМе". Але гэта былі, так бы мовіць, эпізадычныя моманты, хаця, як сведчыць жонка Я. Кохана, паэт пры жыцці шмат пісаў.

**Мікалай ШУКАНАЎ,**
супрацоўнік жлобінскай райгазеты "Новы дзень".

---

СПАДЧЫНА

**Ён жыў, не думаючы пра сябе. У іншых амаль кожны год выходзілі новыя кнігі, амаль кожны месяц у перыядычных выданнях з'яўляліся публікацыі, а ён сваю апошнюю кнігу "Макаў цвет" выдаў яшчэ ў 1979 годзе. Ды і цяпер у выдавецтве пакуль што няма яго рукапіса — не паспеў здаць, бо не спяшаўся. Аднак пасмяротную кнігу свайго сябра Яўгена Крупенькі падрыхтаваў і здаў. А колькі ім, Міколам Федзюковічам, за апошнія гады жыцця прачытана і перапісана твораў паэтаў-пачаткоўцаў!..**

**Ён жыў, не думаючы пра сябе. Ён жыў... Ён жыў, як паэт, і ён быў паэтам. Сведчаннем гэтага — рукапіс кнігі "Красадзён", вершы з якога і прапануюцца нашым чытачам.**

**Віктар ШНІП**



Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ

# Красадзён

СТАРОНКІ З КНІГІ

### Мелодыя зімы

*Вастрэе зрок, гучнее крок,*
*калі сціхае цвыркат вераб'іны.*
*І паступова наплывае змрок*
*на белы аркуш снегавой раўніны.*

*І дыхаю, і думаю лягчэй,*
*хоць спакваля знікаюць светацені.*
*Прыходзіць час уражлівых вачэй,*
*нястрымных рухаў, смелых летуценняў.*

*Ці пачуццё пакліча за парог,*
*ці раптам думка вырвецца наперад...*
*Нібы мурашка, бегае пяро —*
*туды-сюды — па роўнядзі паперы.*

*Вось лініі напружаных радкоў*
*у ранішняй прасторы павісаюць, —*
*як струны тэлеграфных правадоў*
*звіняць высока ўсцяж дарогі саннай.*

*А літары за гукамі — ледз-ледзь...*
*І сум — як тайна песні жураўлінай...*
*І наступае беластвольны лес*
*на сіні аркуш снегавой раўніны.*

•

*Не ў час пагас маіх надзей экран:*
*ні плахі, ні сярмягі, ні адвагі...*
*Не так, не так паранены арлан*
*глядзеў увысь, канаючы ад смагі!*

*Да аблачыны, з лёду і завей,*
*цягнуўся ён упартымі вачамі...*
*А я ж, нібы вясёлы салавей,*
*спяваў, хоць быў дазвання развянчаны.*

*Ды час мінуў! Стамлёнаму арлу*
*няма жадання лётаць над Басфорам...*
*Мне ж — вольны вецер цвеліць галаву,*
*свавольны птах — кіруецца па зорах!*

*Крыляць яму ў бок светлай стараны —*
*на покліч-гук мелодыі зямное,*
*дзе цень — ад жаўруковае струны,*
*напятай між Айчынаю і мною.*

•

*Што ні год — памяншаюцца сілы,*
*кроў стамляецца, розум здае...*
*Родны краю! Дайду да магілы, —*
*не пабачыў бы волі твае!*

*Ды жадаю я ведаць прад сконам,*
*што абраў ты праменісты шлях,*
*што ратай твой над веснім загонам*
*бачыць ранак пагодны ў палях;*

*Каб задумлівы вецер ад вёскі*
*гук адзіны да слыху данёс,*
*у якім не чутно адгалоскаў*
*чалавечага жалю і слёз...*

•

*Я помню, як поўнік прынік*
*да ружы цнатліва-калючай...*
*Я не рабаўнік — ратаўнік*
*душы над узвышанай кручай.*

*Таму і пішу гэты ліст,*
*бо сёння шкада — і не трошкі —*
*сініцы заўчаснае свіст*
*і цвет запазнелай валошкі.*

*Нішто не паўторыцца больш*
*у сіняй падлеснай даліне:*
*ні вусціш сустрэчы, ні боль*
*зламанай у някведзь каліны.*

*Знікае ў даліне туман —*
*ніякай рахубы ад згубы...*
*Былі саладзей за падман*
*твае спалавелыя губы!*

*Павер, што дзень прынясе*
*не боль — суцяшэння ўспаміны;*
*ды ў кожнай сірочай сляze*
*мне бачыцца снег той каліны.*

### Рака

Віталю Амаршану

*У шэрай расцы ціхай і спакою,*
*нібы балота, — цёмная душа.*
*І мне пражыць бы горнаю ракою —*
*удалеч плынь імчаць,*
*а не ляжаць...*

*Калі ад спёкі чэзнуць ніва стане, —*
*адзіны паратунак у рацэ.*
*Яна нясе палям выратаванне,*
*пульсуе —*
*быццам жылка на руцэ.*

*Збяруцца людзі*
*восенню ля млына —*
*стаяць, глядзяць з надзеяй на раку,*
*калі яна няўтомна і няспынна*
*стварае з зерня белую муку...*

*Так неспакойна жыць бы*
*мне дазвання —*
*ракой імклівай на сваёй зямлі...*




*Мікола Федзюковіч з Кастусём Жуком, Міколам Трафімчуком і Міколам Мятліцкім.*

*Высокае, шчаслівае прызванне:*
*варочаць жорны і паіць палі!*

### Здзіўленне

*На шэрым аркушы паперы*
*шаргоча верша цьмяны цень...*
*Я раскажу, калі паверыш,*
*што наступае новы дзень.*

*Кахання спелая планета*
*ўзышла — трымціць над галавой*
*акруглай формаю ранета*
*ў аблоках сутнасці хмяльной.*

*Мяне, шчаслівага ў падмане,*
*ацверазяць не дні — гады.*

*А што было — сплыве ў тумане,*
*сплыве ў тумане назаўжды.*

*Любові шчодрая камета*
*пакіне апраметны след...*
*А мне ставала б і паўсвета,*
*каб заставаўся светлы свет.*

*Сады і плодныя даліны,*
*вулканы, пусткі, валуны...*
*Хапіла б мне і палавіны,*
*каб не было нідзе вайны.*

*Ад вострай прагі абнаўлення*
*ўвайду ў празрыстую ваду,*
*ды ў дзень сусветнага здзіўлення*
*я сам, напэўна, упаду...*

*Аддам жа ўсё на белым свеце,*
*каб толькі, падаючы ніц,*
*было відно, што сонца свеціць,*
*чутно было: трава звініць!*

*За гэта непадкупна ўдзячны*
*я кожнай кропелькай крыві*
*айчыне, створанай для шчасця,*
*жанчыне, вернай у любві.*

### Адсутнасць

*Я тут не быў тры восені зусім!*
*За нематой высокага парога*
*мяне ты не прыгадвала... Усім*
*адказвала: "Не ведаю нічога".*

*Я з камянёў маланкі выкрасаў,*
*па бальшаках адгрукатаў нямала,*
*каб толькі ў цішыні твая краса,*
*як і раней, пяшчотна красавала.*

*Я тры гады не бачыў адкрыцця!..*
*Дзеля яго нібыта ў сне кружыўся*
*за межамі актыўнага жыцця*
*дзеля наступных і шчаслівых жыццяў.*

*Спазнаў адно, нарэшце, адкрыццё —*
*з табою падзялюся поўнай жменяй:*
*чым болей шанаваў я пачуццё,*
*мяне ты ўспаміналa меней, меней...*

*Асветленыя месячным сяйвом,*
*сляды наводзяць на трывожны одум:*
*я зацямніў адсутнасцю сваёй,*
*захмарыў нашы сонечныя годы.*

*Дзе нас няма, — травою забыццяў*
*адсутнасць наша буйна каласіцца...*

ЗГАДКІ

# Па праву дружбы

*...Паўтараючы гэты радок, некалі смуткаваў яшчэ Пушкін: "Иных уж нет, а те далече..."*

*Смуткаваў, успамінаючы тых, хто адышоў назаўсёды. І тых, хто быў так далёка, што цяжка было пачуць нават гучанне голасу... Суцяшэннем людзям нязменна заставалася і застаецца ўдзячная памяць.*

*Навуму Перкіну ў лютым гэтага года споўнілася б 85 гадоў. Ён памёр у самай яшчэ сіле свае творчае работы і таленту. Пакінуўшы пасля сябе шыракавядомыя і аўтарытэтныя кнігі па тэарэтычным беларускім літаратуразнаўстве. Імя яго было вядомае і за межамі рэспублікі — як актыўнага ўдзельніка ўсесаюзных (па тым часе) і міжнародных канферэнцый.*

*Пасля смерці Навума Перкіна — у яго шуфлядах — засталіся шматлікія рукапісы (ён не быў з ліку тых, хто спяшаўся хутчэй, хутчэй друкавацца!).*

*Нястомным клопатам і душою яго адданага сябра-жонкі Соф'і Яфімаўны Перкінай выйшла з друку і пабачыла свет кніга выбраных літаратурна-крытычных артыкулаў "Абсягі думкі".*

*У выдавецтве "Юнацтва" (дзе ў той час працавала і я сама) да юнага чытача звярнулася сваёй светласцю і шчырай дабрынёй аповесць Навума Перкіна (ён пісаў і мастацкую прозу!) "Хлопчык з мястэчка"... Параўнанне — дапускаю — умоўнае, але і, маючы непасрэднае дачыненне да выдання гэтай кніжкі, і як проста чытач, у пэўнай ступені знаходжу я ў ёй паралелі, падабенства са славутым "Хлопчыкам Мотлам" Шолам-Алейхема... Той жа нішчымны мястэчковы яўрэйскі побыт, тыя ж радасці і горыч. І спадзяванне на будучае некалі шчасце... Толькі ўжо ў іншым пераломным часе — ад першай сусветнай вайны да прыходу і ўстанаўлення савецкай улады.*

*Такая аўтабіяграфічная канва — у асноўным — маленства і сталенне "хлопчыка з мястэчка" Міхеля. ...Мы зараз актыўна вяртаемся (і гэта лепшае з таго, што мы робім) да ўсяго нашага м і н у л а г а і д а л ё к а г а, што мае дачыненне да айчыннага с л о в а, к у л ь т у р ы, нашага д у х о ў н а г а б а г а ц ц я.*

*...З непадробным шчырым хваляваннем і ўдзячнасцю напісаны У с п а м і н ы Эсфір Гурэвіч пра Навума Перкіна. І, можа, таму яшчэ яны найдаражэйшыя, што, жывучы цяпер далёка за акіянам (абставіны мацнейшыя за людзей!), яна не адрывае сябе ад родных каранёў — ад Інстытута літаратуры АНБ, з якім былі звязаны доўгія гады яе жыцця і працы. З яго жыццёвым побытам і творчым кіпеннем, з людзьмі — з таварышамі-сябрамі, якія, мусіць, зараз — далёка ад радзімы — сталі ёй яшчэ даражэйшымі.*

*Навум Перкін быў не проста супрацоўнікам Эсфір Гурэвіч. Ён быў духоўна блізкім ёй чалавекам. Другам.*

*Пра гэта яе ўспаміны.*

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

Я ўдзячна лёсу, што ён звёў мяне з гэтым чалавекам, зблізіў і тым узбагаціў.

Упершыню я ўбачыла яго, калі была аспіранткай Інстытута літаратуры, а ён, вярнуўшымся з фронту, працаваў ужо навуковым супрацоўнікам. Ён быў у афіцэрскім шынялі, ладна прыгнаным да фігуры, з вусікамі, якія прыкрывалі шрам над верхняй губой. Мусіць, ён і адрасціў тыя вусікі, каб прыкрыць след ранення. Ад усёй яго постаці павявала энергіяй, маладой творчай сілай. Нібы згаладаўшыся па навуцы, ён апантана накінуўся на працу, працаваў да самазабыцця. Ён быў з таго пакалення, якое, прайшоўшы вайну, узяло на свае плечы асноўны цяжар пасляваеннага адраджэння.

Першая значная яго праца была пра спадчыну Яна Баршчэўскага і Яна Чачота, але яна не прыйшлася да часу, дакладней, яна нашмат апярэдзіла час, і не была зацверджана ВАКам. Вучоныя потым не раз спасылаліся на гэтую працу, якая, пераплеценая, у машынапісным варыянце, захоўвалася ў бібліятэцы інстытута, бо аўтар яе адзін з першых убачыў важнасць створанага пісьменнікамі для далейшага развіцця беларускай літаратуры.

Вельмі хутка Навум Саламонавіч напісаў сваю другую працу — пра творчасць Куляшова, — якая і была зацверджана як кандыдацкая дысертацыя.

Лёс не спрыяў Навуму Саламонавічу і калі ён бліскуча абараніў доктарскую дысертацыю, якая была прызнана як новае слова ў беларускім літаратуразнаўстве, у асэнсаванні літаратурнага працэсу 20—30-х гадоў. Але нейкім сілам у Беларусі былі не даспадобы поспехі вучонага, і ў ВАК пасыпаліся ананімныя "пасланні", якія надоўга затрымалі зацвярджэнне працы. Лёс не песціў Навума Саламонавіча і тады, калі ён напісаў першую сваю аповесць — "Я стаў партызанам". Мала хто ведаў, што гэты чалавек, які выдае адну за другой навуковыя кнігі, начамі яшчэ піша мастацкія творы, у якіх была праўда перажытага і зведанага. Па сутнасці мастацкія старонкі ўспамінаў партызана, заснаваныя на дакументальным матэрыяле, былі адной з першых спроб праўдзівага, без ідэалізацыі і прыхарошвання, адлюстравання партызанскай барацьбы. Першы варыянт аповесці так і называўся: "Эпітафія без ялею". Але гэтая праўда якраз і не спадабалася рэцэнзенту. У сваёй закрытай рэцэнзіі ён пісаў: "Няўжо ў гады партызанскай вайны на Браншчыне ўсё было так змрочна і так безвыходна цяжка, як апавядае аўтар?" І вывад такі: у аповесці няма праўды пра партызанскую вайну; і таму кнігу "ні ў якім разе выдаваць нельга". Прысуд катэгарычны і беапеляцыйны.

Для Навума Саламонавіча гэта было цяжкім ударам. Але ён упарта працягваў працу над аповесцю. Толькі пасля яго смерці, дзякуючы вялікім намаганням і высілкам Соф'і Яфімаўны, вернай і адданай спадарожніцы жыцця, аповесць выйшла ў свет, як і другія кнігі аўтара — аўтабіяграфічная аповесць "Хлопчык з мястэчка" і кніга літаратурна-крытычных артыкулаў "Абсягі думкі".

"Хлопчык з мястэчка", мастацкая біяграфія пісьменніка, прываблівала чытача сваёй шчырасцю, душэўнасцю, выключна дзіцячай даверлівасцю, цёплым гуманістычным пачуццём, жывымі, натуральнымі малюнкамі жыцця. Інтэрнацыяналізм тут быў сапраўдны, глыбінны, а не дэкларацыйны, паказны.

Сваёй мастацкай творчасцю Навум Саламонавіч нібы даводзіў, што можна быць сапраўдным вучоным мужам, нават тэарэтыкам і адначасова валодаць майстэрствам мастацкага слова, размяжоўваючы гэтыя дзве сферы творчасці. У літаратуразнаўстве Навум Саламонавіч быў прыхільнікам строгага навуковага акадэмічнага стылю з ухілам у філасофію, бо літаратуразнаўства было для яго ў пэўнай ступені навукай метадалагічнай і тэарэтычнай, якая займаецца вывучэннем заканамернасцей гісторыка-літаратурнага працэсу, сакрэтаў мастацкага майстэрства пісьменнікаў і знаходзіцца ў цеснай узаемасувязі з філасофіяй, сацыялогіяй, псіхалогіяй, гісторыяй, лінгвістыкай. Ён не быў схаластам і не любіў мёртвых схем, але адначасова не любіў і вольнасцей, танных аздоб, расплывістасці і аморфнасці думкі. Ён імкнуўся да дакладнасці, доказнасці, аргументаванасці, хоць не цураўся часам і вобразнай метафарычнасці. Але яго кнігі цікава чытаць перш за ўсё, дзякуючы глыбокаму аўтарскаму пранікненню ў сутнасць з'яў, свежасці, арыгінальнасці думкі. Зразумела, што ў яго хапала эмоцый пісаць больш свабодна і раскавана свае даследчыя працы, але ён свядома сябе абмяжоўваў, прытрымліваючыся законаў "жанру". Такая была ў яго пазіцыя.



*На здымку: Н. Перкін і А. Адамовіч*

Навум Саламонавіч быў інтэлігентам у першым пакаленні. Хлопчык з мястэчка, сын рамесніка, ён сваімі ўласнымі намаганнямі, унутранай працай узняўся на вышыні культуры і навукі. Ён быў інтэлігентам — па духу, па адносінах да жыцця, да справы, да сям'і. Для мяне найперш лакмусавай паперкай інтэлігентнасці былі рамантычна-ўзнёслыя адносіны да жанчыны. Ён прызнаваў яе роўнай у працы, але разам з тым адносіўся да яе з нейкай асаблівай павагай, пачуццёвасцю. І жанчыны плацілі яму такой жа павагай і любоўю.

Пры ўсім тым усе ў інстытуце ведалі, што Навум Саламонавіч па прыродзе сваёй аднaлюб, для якога не было нікога прыгажэй, разумней, дабрэй у свеце, чым яго адзіная і непаўторная абранніца. Па цяперашніх мерках гэтая рыса — вельмі далёкае рэтра. Але ж пастаянства ў любві — сведчанне незвычайнага ўнутранага багацця духу, талент, вельмі ў нас рэдкі. У душы Навума Саламонавіча жыў высокі і светлы ідэал жанчыны. Жаночая палова інстытута адчувала гэта сэрцам.

Мне прыгадваецца такі выпадак. Напярэдадні дня Савецкай Арміі рэдкалегія інстытуцкай насценнай газеты "Літаратар" папрасіла нашых жанчын адказаць на анкету, у якой, між іншым, было такое трывіяльнае пытанне: "Хто з мужчын нашай установы падабаецца вам больш за ўсіх?" Калі былі падведзены вынікі, то аказалася, што сімпатыі амаль усіх жанчын былі аддадзены аднаму чалавеку — Навуму Перкіну.

Дзякуючы такім, як Навум Саламонавіч, у інстытуце, як правіла, панавала чыстая, добрая, вельмі спрыяльная для працы маральная атмасфера. Чуласць, павага да сваіх калег, да асобы кожнага з іх спалучалася ў Навума Саламонавіча з пачуццём вялікай адказнасці за ўстанову, дзе ён працаваў, з адданасцю калектыву, часцінкай якога ён сябе лічыў.

Прывяду адзін толькі прыклад. Колькі я помню, інстытуту амаль заўсёды не хапала фінансавання. У канцы ці ў пачатку года звычайна пачыналася ліхаманка, і супрацоўнікі перажывалі трывогу: зноў навісае скарачэнне. Вядома, што "аперацыя" гэтая вельмі балючая для ўсіх — і для супрацоўнікаў, і для дырэкцыі, калі яна неабыякавая да людзей, асабліва, калі калектыў дружны і працаздольны. І вось, памятаю (я тады была вучоным сакратаром), аднойчы дырэктар інстытута Васіль Васільевіч Барысенка сабраў загадчыкаў сектараў і паведаміў: "Не хапае фонду заработнай платы. Трэба скараціць адну "адзінку". Што будзем рабіць?" Відаць, кандыдатуру на скарачэнне шукаць не хацелася, і нехта прапанаваў: давайце ўсе возьмем па чарзе невялікі адпачынак за свой кошт і тым самым захаваем калектыў у цэласці. І ўсе згадзіліся. Тады Васіль Васільевіч спытаў: "Хто будзе першы добраахвотнік?" І першым падахвоціўся Навум Саламонавіч. Потым, як аказалася, нікому больш браць адпачынак за свой кошт не спатрэбілася. Інстытуту дабавілі грошы. З таго часу я яшчэ больш стала паважаць Навума Саламонавіча. Сам жа ён ніколі не ўспамінаў пра гэты выпадак, бо не любіў выхваляцца, выстаўляць сябе, бо быў надзіва сціплым чалавекам.

Пра гэта гаворыць і тое, што пра выратаванне героя-лётчыка Марка Галая ў час Айчыннай вайны дзякуючы Навуму Саламонавічу мы даведаліся не ад яго самога, а толькі пасля таго, як аб гэтым напісаў у сваёй кнізе "Через невидимые барьеры" (1965) славуты лётчык. А было гэта так. У 1943 г. самалёт 890 авіяпалка р-8, на якім ляцеў Галай, выканаўшы аператыўнае заданне каля Бранска, трапіў пад зенітны агонь і загарэўся. Патушыць яго не ўдалося. З палаючай машыны лётчык на парашуце спусціўся ў Бранскіх лясах. Восем дзён ён блукаў па лясах, па спаленай эсэсаўцамі зямлі. Нарэшце выйшаў да партызанскай Рагнедзінскай брыгады, на чале якой стаяў Мураль, а начальнікам штаба быў Навум Перкін. Навум Саламонавіч і адправіў Галая на Вялікую Зямлю.

Потым у пісьме апошні шчыра дзякаваў начштабу партызанскага атрада за цёплыя адносіны ў цяжкія хвіліны і дапамогу-выратаванне. Часам я задаю сабе пытанне: як паводзіў бы сябе Навум Саламонавіч у сённяшняй, такой трагічна-складанай сітуацыі? Упэўнена, што з годнасцю і ўласцівай яму мудрасцю. Думаю, што яму памаглі б у гэтым пачуццё гумару, іронія, самаіронія — якасці, якімі ён быў адметны, а таксама ўменне адсейваць, аддзяляць часовае, зменлівае, пераходнае ад непераходнага, сутнаснага, вечнага. А такімі непераходнымі для яго былі дабро, справядлівасць, чалавечнасць — тыя маральныя асновы, на якіх трымаецца свет незалежна ад канкрэтных грамадскіх абставін. Наогул па сваіх поглядах, перакананнях, выказаных у лепшых яго працах, Навум Саламонавіч належаў да шасцідзесятнікаў. Зразумела, ён не быў свабодны ад ілюзій і міфаў свайго часу, але ён быў надзвычай празорлівым чалавекам і бачыў тое, чаго не бачылі многія з нас.

Навум Саламонавіч уяўляецца мне чалавекам у многіх адносінах ідэальным. Яго аналітычны розум асвятляўся цёплым святлом душы, якое саграваў усіх, хто знаходзіўся з ім побач, і стварала надзвычай светлую, чалавечую аўру. Што такое розум без сэрца? Таму смерць яго і сёння ўспрымаецца балюча, як заўчасная страта, хоць прайшло ўжо хутка 20 гадоў з таго дня...

**Эсфір ГУРЭВІЧ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-660

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4678
Нумар падпісаны 20.2.1997 г.
Заказ 968/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12